# Шляхі калектывізацыі



№ 10
1930

# Аб фактах справы

## Часопісь „Шляхі Калектывізацыі“ ў кожны калгас, саўгас, МТС

### Старшыня Быхаўскага райкалгассаюзу Воўкава ігнаруе паказаньні Калгасцэнтру БССР пра прасоўваньне часопісі сярод калгасьнікаў

Некалькі месяцаў таму назад Калгасцэнтрам БССР было дадзена спэцыяльнае паказаньне ўсім райкалгассаюзам аб арганізацыі падпіскі на часопісь для ўсіх калгасаў свайго раёну. У паказаньні было выразна сказана, што часопісь „Шляхі Калектывізацыі“ зьяўляецца адзінаю часопісьсю ў БССР, якая шырока асьвятляе на сваіх старонках сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, практыку работы саўгасаў, калгасаў, МТС. Зьмяшчае каштоўныя матар'ялы па агра-заатэхніцы, а таксама матар'ялы завочных курсаў па падрыхтоўцы калгасных кадраў (брыгадзіраў, жывёлаводаў, сьвінароў і г. д.), часопісь на канкрэтных прыкладах змагаецца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў і гэтым самым перадае вопыт мацнейшых калгасаў слабейшым, гэтым самым вучыць, як трэба змагацца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў у іх арцельнай форме на даным этапе калгаснага будаўніцтва.

Як-жа райкалгассаюзы рэагуюць на паказаньні Калгасцэнтру, як-жа райкалгассаюзы спрыяюць пашырэньню гэтай неабходнай часопісі сярод калгасаў, калгасьнікаў?

На раду з райкалгассаюзамі, якія па сапраўднаму ўзяліся за выкананьне дырэктывы Калгасцэнтру па прасоўваньню часопісі сярод калгасьнікаў (Аршанскі, Барысаўскі, Жлобінскі і іншыя райкалгассаюзы), маюцца райкалгассаюзы, якія злосна ўхіляюцца ад выкананьня гэтай дырэктывы, ад усямернага прасоўваньня часопісі ў масы калгасьнікаў.

Старшыня Быхаўскага райкалгассаюзу Воўкава, ухіляючыся ад выкананьня дырэктывы Калгасцэнтру пра пашырэньне часопісі, нават пусьціла ў ход так званую, выдуманую падобнымі Воўкавай сыстэму „надуваньня“. Воўкава заявіла:

— Такой дырэктывы ў нас ня было.

На самай-жа справе гэтая дырэктыва вісіць на дзьвярох на імя Быхаўскага старшыні райкалгассаюзу. Калі гэта было паказана Воўкавай, яна замялася і вінаватым, але з мэтаю апраўдацца, голасам дадала:

— Асаблівых такіх дырэктыў ня было...

Бачыце, для Воўкавай тая дырэктыва Калгасцэнтру БССР, за якую змагаецца рад калгассаюзаў—не закон, ёй патрэбна была нейкая асаблівая дырэктыва. Наколькі гэтая самая Воўкава злосна не жадае выконваць паказаньне Калгасцэнтру пра пашырэньне часопісі яшчэ больш відаць з такой акалічнасьці: Быхаўская пошта ўключылася ў конкурс па пашырэньню часопісі і каб не затрымаць тэмпаў падпіскі, пошта згадзілася крэдытаваць райкалгассаюз на 2 месяцы. На працягу гэтага тэрміну райкалгассаюз пры актыўнай дапамозе ўсіх лістаносцаў упаўне змог-бы ўтрымаць па паўтара рубля з кожнага калгасу (часопісь на паўгода каштуе 1 р. 50 кап.) тым больш, што масавай работы па прасоўваньні часопісі няма, патрэбна толькі дагаварыцца з старшынёй праўленьня. Але і пры такіх умовах Воўкава ўхілілася ад арганізацыі падпіскі для калгасаў Быхаўскага раёну.

Калі яшчэ і пасьля гэта была зроблена спроба дагаварыцца з Воўкавай аб арганізацыі падпіскі, яна катэгарычна адмовілася, заявіўшы:

— Не уговаривайте меня, как красную девицу. Надо будет довести до сведения Белколхозцентр, что приезжают его работники и так нажимают на подписку.

Гомельскі райкалгассаюз таксама нічога не зрабіў аб пашырэньні часопісі.

Старшыня Гомельскага райкалгассаюзу зусім ня лічыць сваім абавязкам умешвацца ў такія справы, як клопаты па забесьпячэньні калгасаў часопісьсю.

— Ня было яшчэ якой работы нам,—заяўляе старшыня РКС,—паедзьце самі ў калгас і завярбуйце сабе падпісчыка на часопісь.

Можна было-б прывесьці яшчэ некаторыя райкалгассаюзы (Буда-Кашалёўскі, Крупскі і інш.), якія ніякіх захадаў ня прынялі ў напрамку пашырэньня часопісі сярод калгасьнікаў, але дастаткова і гэтага, каб паказаць, што многія райкалгассаюзы проста ігнаруюць дырэктыву Калгасцэнтру пра прасоўваньне часопісі.

Нельга прайсьці моўчкі і міма зялёных газэтных аддзяленьняў Саюздруку. Кантрольныя заданьні Беладдзяленьня Саюздруку па пашырэньні часопісі не памылімся, калі скажам, што амаль усімі раённымі газэтнымі аддзяленьнямі ня выкананы нават на 50 проц.

Загадчык Крупскага райгазэтнага аддзяленьня Саюздруку яшчэ і да гэтага часу ніякіх захадаў ня прыняў па пашырэньні часопісі, па выкананьні свайго кантрольнага заданьня. Гэты загадчык пакладаецца на самацёк.

Загадчык Бабруйскага аддзяленьня Саюздруку зусім недаацэньвае часопісь „Шляхі Калектывізацыі“. Калі загадчыку Бабруйскага аддзяленьня Саюздруку было сказана, што кантрольнае заданьне па часопісі павінна быць выканана ў найкарацейшы тэрмін, пасьледваў такі адказ: „Собственно говоря, что эта часопись дает колхозам“.

Ня лепш справа пастаўлена з пашырэньнем часопісі і Жлобінскім райаддзяленьнем Саюздруку, Буда-Кашалёўскім, Гомельскім і ў інш.

Усё гэта гаворыць аб тым, што Беладдзяленьне Саюздруку зусім па нядбайнаму адносіцца да праверкі выкананьня сваіх заданьняў, што Беладдзяленьне Саюздруку пляцецца ў хвасьце райаддзяленьняў і гэтым самым тармазіць падняцьце тыражу часопісі „Шляхі Калектывізацыі“.

Райкалгассаюзы павінны зараз-жа даць паказаньне ўсім калгасам аб выпісцы часопісі, а тыя райкалгассаюзы, якія гэтае паказаньне далі—павінны праверыць, як выконваецца іх паказаньне. Тыя старшыні РКС, якія ігнаруюць арганізацыі падпіскі на часопісь, павінны быць прыцягнуты да суровай адказнасьці.

**Беладдзяленьне Саюздруку павінна праверыць, як выконваюцца яго заданьні в тым, каб часопісь „Шляхі Калектывізацыі“ у найкарацейшы тэрмін была ў кожным саўгасе, калгасе, МТС, каб часопісь чыталі ўсе калгасьнікі, рабочыя саўгасаў, МТС, беднякі і серадзякі-аднаасобнікі.**

**М. [illegible]**

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

XVIII
7925 (XII)

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

10 МАЙ 1932

АРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР


## ЗЬМЕСТ



# Пастановы партыі і ўраду—у масы

## Аб пляне збожжазагатовак з ураджаю 1932 году і разгортваньні калгаснага гандлю збожжам

*Пастанова СНК СССР і Цэнтральнага камітэту УсеКП(б)*

1. На аснове перамогі калгаснай і саўгаснай сыстэмы гаспадаркі над сыстэмай аднаасобнай гаспадаркі і разгрому кулацкіх элемэнтаў у вёсцы—СССР за 2 гады дасягнуў такога разгортваньня збожжавай гаспадаркі, пашырэньня пасеўных плошчаў і росту валавой прадукцыі збожжа, што замест 660 млн. пуд. збожжа (разам з гарнцам), загатоўленых ад ураджаю 1928 году, на аснове аднаасобнай гаспадаркі, у 1930 годзе дзяржаўныя загатоўкі дасягнулі 1.350 млн. пуд. збожжа (разам з гарнцам), а ў 1931 годзе, ня гледзячы на засуху—1.400 млн. пуд. (разам з гарнцам).

Гэтыя посьпекі тлумачацца перш за ўсё тым, **што калгасы,** як буйная аб'яднаная гаспадарка, атрымалі магчымасьць праз машына-трактарныя станцыі прыстасаваць і найлепш скарыстаць трактары і машыны, пашырыць пасеўныя плошчы і палепшыць агратэхнічную пастаноўку справы, а **саўгасы** ператварыліся ў буйнейшыя фабрыкі збожжа, якія забясьпечваюць дзяржаве з году ў год узрастаючы збожжавы фонд.

Дзякуючы ажыцьцяўленьню палітыкі ленінскай партыі, краіна вышла з крызісу збожжавай гаспадаркі і перамагае труднасьці, выкліканыя засухай мінулага году ва ўсходніх раёнах СССР, са значна большым посьпехам, чым гэта мела месца ў папярэднія засушлівыя гады, калі дробная сялянская гаспадарка ящчэ пераважала ў нашай краіне.

2. Разам з тым, у рэзультаце посьпехаў у справе ажыцьцяўленьня пяцігодкі ў галіне прамысловасьці ўсё больш растуць магчымасьці Савецкага саюзу ў галіне вытворчасьці прамысловых тавараў, як для задавальненьня вытворчых патрэб калгасаў, так і асабістых патрэбнасьцяй працоўных вёскі.

У сувязі з гэтым бязупынным ростам колькасьці прамысловых тавараў і ростам вытворчасьці збожжа ў вёсцы павялічваюцца магчымасьці разгортваньня калгаснага гандлю. Калгасны гандаль становіцца ўсё больш важнай дадатковай крыніцай снабжэньня гарадоў прадуктамі сельскагаспадарчай вытворчасьці.

У сувязі з гэтай акалічнасьцю савецкая ўлада атрымала магчымасьць побач з мэтадам дзяржаўных збожжазагатовак практыкаваць, як сродак снабжэньня гарадзкога насельніцтва, другі мэтад—мэтад гандлю збожжам самімі калгасамі і калгасьнікамі. Задача заключаецца ў тым, каб у інтарэсах далейшага пашырэньня таваразвароту паміж горадам і вёскай і яшчэ большага палепшаньня снабжэньня гарадзкога насельніцтва спалучыць гэтыя два мэтады і разгарнуць калгасны гандаль збожжам за кошт некаторага скарачэньня дзяржаўных збожжазагатовак па сялянскім сэктары, павялічыўшы адначасова загатоўкі па саўгасным сэктары.

На падставе ўсяго гэтага Савет Народных Камісараў СССР і Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) пастанаўляюць:

а) Зьменшыць дзяржаўны плян збожжазагатовак па СССР з ураджаю 1932 году па калгасах і аднаасобных гаспадарках у параўнаньні з плянам 1931 году на 264 млн. пуд., устанавіўшы для 1932 году плян у 1.103 млн. пуд., пры сярэднім ураджаі (бяз гарнца) замест леташняга пляну ў 1.367 млн. пуд.



У адпаведнасьці з гэтым вызначыць параённа наступны плян збожжазагатовак (бяз гарнца):

**Па Украіне**—356 млн. пуд. замест пляну мінулага году ў 434 млн. пуд.;

**па Паўночным Каўказе**—136 млн. пуд. замест пляну мінулага году ў 154 млн. пуд.;

**па Крыме**—10,0 млн. пуд. замест пляну мінулага году—11 млн. пуд.;

**па ЦЧВ**—116 млн. пуд. замест пляну мінулага году—128 млн. пуд.;

**па Татарыі**—24 млн. пуд. замест пляну мінулага году—31 млн. пуд.;

**па Казакстану**—38 млн. пуд. замест пляну мінулага году—57 млн. пуд.;

**па Усходняй Сібіры**—29 млн. пуд. замест пляну мінулага году—32 млн. пуд.;

**па Сярэдняй Азіі**—22 млн. пуд. замест пляну мінулага году—25 млн. пуд.;

**па Маскоўскай вобласьці**—27 млн. пуд. замест пляну мінулага году—31 млн. пуд.;

**па Ніжагародзкім краі**—29 млн. пуд. замест пляну мінулага году—33 млн. пуд.;

**па Заходняй вобласьці**—6 млн. пуд. замест пляну мінулага году—9 млн. пуд.;

**па Ленінградзкай вобласьці**—4 млн. пуд. замест пляну мінулага году—5 млн. пуд.;

**па Іванаўскай вобласьці**—4 млн. пуд. замест пляну мінулага году—5 млн. пуд.;

**па Паўночным краі**—2 млн. пуд. замест пляну мінулага году—3 млн. пуд.;

**па Закаўказьзі**—4 млн. пуд. замест пляну мінулага году—5 млн. пуд.;

**па БССР**—4 млн. пуд. замест пляну мінулага году—6 млн. пуд.;

**па Далёка-Усходнім краі**—7 млн. пуд. замест пляну мінулага году—8 млн. пуд.

**па Сярэдняй Волзе**—72 млн. пуд. замест пляну мінулага году—106 млн. пуд.;

**па Ніжняй Волзе**—77 млн. пуд. замест пляну мінулага году—100 млн. пуд.;

**па Башкірыі**—26 млн. пуд. замест пляну мінулага году—39 млн. пуд.;

**па Уралу**—48 млн. пуд. замест пляну мінулага году—71 млн. пуд.;

**па Заходняй Сібіры**—62 млн. пуд. замест пляну мінулага году—74 млн. пуд.

б) У адпаведнасьці з ростам саўгаснай гаспадаркі **павялічыць** у 1932 годзе плян збожжазагатовак **па саўгасах** усіх сыстэм да 151 млн. пуд. супроць зданых у мінулым годзе 108 млн. пуд. з наступнай разьбіўкай па сыстэмах:

Па Збожжатрэсту—110 млн. пуд., па Саюзцукру—20 млн. пуд., па насеннаводчых трэстах—10 млн. пуд., па Прамсаўгастрэсту—5 млн. пуд., па жывёлагадоўчых саўгасах (саюзных і рэспубліканскіх)—3 млн. пуд., па іншых рэспубліканскіх саўгасах—3 млн. пуд.

Збожжазагатоўчы плян па саўгасах разьбіць па раёнах наступным чынам:

Украіна—29,0 млн. пуд., Паўночны Каўказ—37,0 млн. пуд., Крым—4,0 млн. пуд., ЗСФСР—0,5 млн. пуд., Сярэдняя Азія—2,3 млн. пуд., Ніжняя Волга—12,0 млн. пуд., ЦЧВ—10,0 млн. пуд., Сярэдняя Волга—16,0 млн. пуд., Татарыя—0,3 млн. пуд., Казакстан—4,0 млн. пуд., Урал—8,5 млн. пуд., Башкірыя—5,0 млн. пуд., Заходняя Сібір—13,5 млн. пуд., Усходняя Сібір—3,5 млн. пуд. Ленінградзкая вобласьць—0,05 млн. пуд., Заходняя вобласьць—0,35 млн. пуд., Маскоўская вобласьць—0,8 млн. пуд., Іванаўская вобласьць—0,2 млн. пуд., Ніжагародзкі край—0,1 млн., пуд., ДУК—4,0 млн. пуд.

в) Выкананьне пляну збожжазагатовак з ураджаю 1932 году закончыць не пазьней 1 студзеня 1933 г.

г) Стварэньне насенных фондаў у калгасах закончыць не пазьней 15 студзеня 1933 году.

д) Прызнаць мэтазгодным па сканчэньні выкананьня гэтага збожжазагатоўчага пляну і стварэньня насенных фондаў, г. зн. з 15 студзеня 1933 году даць калгасам і калгасьнікам поўную магчымасьць бесьперашкоднага продажу лішкаў свайго збожжа на свой погляд, як на базарах і рынках, так і ў сваіх калгасных крамах, абавязаўшы мясцовыя органы ўлады аказваць у гэтым калгасам і калгасьнікам поўную садзейнасьць і прыняць меры да выкараненьня прыватнікаў і перакупшчыкаў-спэкулянтаў, якія прабуюць нажыцца на калгасным гандлі.

Старшыня СНК СССР *В. Молатаў* (*Скрабін*)

Сакратар ЦК УсеКП(б) *І. Сталін*

Масква, Крэмль,
6 мая 1932 г.

## Аб пляне жывёлазагатовак і аб мясным гандлі калгасаў, калгасьнікаў і аднаасобных працоўных сялян

*Пастанова Савету Народных Камісараў Саюзу ССР і ЦК УсеКП(б)*

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР і Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) пастанаўляюць:

1. Зьменшыць у два разы дзяржаўны плян жывёлазагатовак на тры кварталы 1932 г., што засталіся,—**па калгасах, калгасьніках і аднаасобных гаспадарках** і ўстанавіць яго ў разьмеры 716 тыс. тон у жывой вазе, замест дзейнага пляну ў 1 мільён 414 тысяч тон, адначасова **павялічыўшы** плян здачы жывёлы саўгасамі (апрача камэрцыйнай рэалізацыі) да 138 тыс. тон супроць фактычна зданых у 1931 г. 90 тыс. тон жывой вагі.

2. У адпаведнасьці з гэтым:

а) разьмеркаваць плян загатовак па калгасах, калгасьніках і аднаасобных гаспадарках на тры кварталы 1932 году па-раённа ў наступнай колькасьці:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Паўночны край | 6.000 тон | супроць дзейнага пляну | 7.400 тон |
| 2. Карэльская АССР | 500 „ | „ „ „ | 670 „ |
| 3. Ленінградзкая вобл. | 15.000 „ | „ „ „ | 22.060 „ |
| 4. Заходняя | 28.000 „ | „ „ „ | 57.100 „ |
| 5. Маскоўская | 20.000 „ | „ „ „ | 25.500 „ |
| 6. Іванава-Прамысл. вобл. | 12.000 „ | „ „ „ | 15.500 „ |
| 7. Ніжагародзкі край | 40.000 „ | „ „ „ | 45.820 „ |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 8. Уральская вобл. | 37.000 | тон супроць двойнага пляну | 59.700 тон |
| 9. Башкірская АССР | 17.000 | „ „ „ „ | 41.600 „ |
| 10. Татарская АССР | 6.000 | „ „ „ „ | 9.800 „ |
| 11. Сярэдня-Волскі край | 21.000 | „ „ „ „ | 52.500 „ |
| 12. ЦЧВ | 20.000 | „ „ „ „ | 33.300 „ |
| 13. Ніжня-Волскі край | 26.000 | „ „ „ „ | 84.000 „ |
| 14. Паўночна-Каўк. край (разам з Даг.) | 44.500 | „ „ „ „ | 108.300 „ |
| 15. Крымская АССР | 3.000 | „ „ „ „ | 3.500 „ |
| 16. Казакск. АССР | 56.000 | „ „ „ „ | 255,500 „ |
| 17. Кіргіская АССР | 24.000 | „ „ „ „ | 46.400 „ |
| 18. Зах.-Сібірскі край | 45.000 | „ „ „ „ | 108.000 „ |
| 19. Усходня-Сібірскі край (разам з Бурат-Манг. АССР) | 35.000 | „ „ „ „ | 92.500 „ |
| 20. Якуцкая АССР | 4.000 | „ „ „ „ | 5.700 „ |
| 21. ДУК | 5.000 | „ „ „ „ | 12.700 „ |
| 22. УССР | 130.000 | „ „ „ „ | 181.200 „ |
| 23. БССР | 38.000 | „ „ „ „ | 45.100 „ |
| 24. ЗСФСР | 28.000 | „ „ „ „ | 38.300 „ |
| 25. Сярэдн. Азія | 45.000 | „ „ „ „ | 74.600 „ |

б) **Плян жывёлазагатовак у саўгасах** (апрача камэрцыйнай рэалізацыі) разьмеркаваць па сыстэмах: „Свиновод“—48.000 тон, „Скотовод“—30.000 тон, „Овцевод“—33.000 тон, „Союзсахар“—8.000 тон, Маслааб‘яднаньне—10.000 тон, іншыя саўгасы—9.000 тон.

Плян жывёлазагатовак па саўгасах разьбіць па раёнах наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| Украіна | 37,5 | тыс. тон |
| Паўночны Каўказ | 13,8 | „ „ |
| ЦЧВ | 11,9 | „ „ |
| Ніжняя Волга | 11,2 | „ „ |
| Сярэдняя Волга | 8,5 | „ „ |
| Казакская АССР | 20,5 | „ „ |
| Заходня-Сібірскі край | 13,3 | „ „ |
| Усходня-Сібірскі „ | 1,9 | „ „ |
| Кіргіская АССР | 5,75 | „ „ |
| Крымская АССР | 0,27 | „ „ |
| ДУК | 0,71 | „ „ |
| Уральская вобл. | 4,0 | „ „ |
| Башкірская АССР | 2,0 | „ „ |
| Татарская АССР | 1,1 | „ „ |
| ЗСФСР | 1,2 | „ „ |
| Сярэдняя Азія | 4,3 | „ „ |

3. Плян жывёлазагатовак устанавіць у жывой вазе з тым, каб гаспадаркі маглі выканаць яго любым відам жывёлы.

4. Скасаваць якія-б там ні было абмежаваньні па забоі буйнай рагатай і дробнай жывёлы, як для ўласных патрэб вясковага насельніцтва, так і для продажу.

5. Прызнаць мэтазгодным прадаставіць калгасам, калгасьнікам і аднаасобнікам, якія акуратна выконваюць цэнтралізаваны плян жывёлазагатовак, поўную магчымасьць бесьперашкоднага продажу буйнай жывёлы, сьвіней, авец, птушкі ўсякай і мясной прадукцыі сваіх гаспадарак на рынках, базарах і праз калгасныя крамы.

6. Забараніць мясцовым органам улады ўводзіць якія-б там ні было абмежаваньні па продажу калгасамі, калгасьнікамі і аднаасобнікамі мясной прадукцыі іх гаспадарак, выкараняючы прыватнікаў і перакупшчыкаў-спэкулянтаў, якія прабуюць нажыцца на мясным гандлі працоўных сялян.

Старшыня Савету Народных Камісараў
Саюзу ССР *В. Молатаў* (*Скрабін*)

Сакратар Цэнтральнага Камітэту
УсеКП(б) *І. Сталін*

# Магутныя фактары арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў

ЦК УсеКП(б) і СНК СССР у пачатку мая месяца выданы тры надзвычайнай палітычнай важнасьці дакумэнты: пастанова аб пляне збожжа і жывёлазагатовак і разгортваньні калгаснага гандлю і палажэньне пра сельскагаспадарчы падатак на 1932 г. Гэтыя дакуманты яшчэ раз паказваюць вялізарнейшыя дасягненьні і перамогі сацыялістычнай сыстэмы народнай гаспадаркі і непахісную правільнасьць генэральнай лініі партыі.

ЦК і СНК адзначаюць, што **„на аснове перамогі калгаснай і саўгаснай сыстэмы гаспадаркі над сыстэмай аднаасобнай гаспадаркі і разгрому кулацкіх элемэнтаў на вёсцы—СССР ў два гады дасягнуў такога разгортваньня збожжавай гаспадаркі, пашырэньня засеўных плошчаў і росту валавой прадукцыі збожжа, што замест 660 мільёнаў пудоў збожжа (разам з гарнцам) загатоўленых ад ураджаю 1928 г. на аснове аднаасобнай гаспадаркі,—у 1931 г., ня гледзячы на засуху—дзяржаўныя загатоўкі дасягнулі 1.400 мільёнаў пудоў (разам з гарнцам)“.**

Пасьпяхова вырашыўшы збожжавую праблему, мы павінны з такой-жа энэргіяй вырашаць і вырашаем дырэктыву партыі аб разгортваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Пастановамі ЦК і СНК аб збожжа і жывёлазагатоўках прадугледжваецца: зьмяншэньне збожжазагатовак у 1932 г. па калгасным сэктары і аднаасобных гаспадарках на 264 мільёны пудоў, у тым ліку па БССР на 2 млн. пудоў (з 6 да 4 млн.) і наменшаньне ўдвайне дзяржаўнага пляну жывёлазагатовак на застаючыяся тры кварталы 1932 г. па калгасах, калгасьніках і аднаасобных гаспадарках

(замест 1.414 тыс. тон—716 тыс. тон) у тым ліку па БССР паменшаньне на 7.100 тон (замест 45.100—38.000 тон).

Гэтымі пастановамі яшчэ раз пацьвярджаецца, што партыя і ўрад скарыстоўваюць усе магчымасьці для аказаньня максымальнай дапамогі і ўздыму матар'яльнага становішча працоўных мас вёскі і ў першую чаргу калгаснага сялянства. Па сканчэньні выкананьня збожжа і жывёлазагатоўчага пляну, збору насенных фондаў, калгасы і калгасьнікі атрымоўваюць поўную магчымасьць скарыстоўваць лішкі збожжа, буйнай жывёлы, сьвіней, авечак, птушак і мясной прадукцыі сваіх гаспадарак, як для сваіх асабістых патрэб, так і ў якасьці таварнай прадукцыі і прадаваць іх на базарах, рынках і ў сваіх калгасных крамах.

У сувязі з шпаркім ростам прамысловых тавараў для задавальненьня вытворчых патрэб калгасаў і асабістых патрэб працоўных вёскі, магчымасьці разгортваньня калгаснага гандлю ўсё павялічваюцца. На падставе гэтага „савецкая ўлада атрымала магчымасьць, разам з мэтадам дзяржаўных збожжазагатовак (і жывёлазагатовак—С. К.) практыкаваць, як сродак снабжэньня гарадзкога насельніцтва другі мэтад гандлю хлебам (і прадуктамі жывёлагадоўлі—С. К.) самімі калгасамі і калгасьнікамі“ (з пастановы ЦК і СНК СССР).

Такім чынам, разьвіцьцё і ўмацненьне калгаснага гандлю збожжам і прадуктамі жывёлагадоўлі робіцца адным з важнейшых зьвеньняў пашырэньня тавараабароту паміж горадам і вёскай, адным з сродкаў арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і палепшаньня рабочага снабжэньня Пастановай ЦК і СНК адмяняюцца ўсялякія абмежаваньні па ўбою буйнай рагатай і дробнай жывёлы, як для ўласных патрэб сельскага насельніцтва, так і для продажу. Мясцовым органам улады забаронена ўводзіць якія-бы там ні было абмежаваньні па продажы калгасамі, калгасьнікамі і аднаасобнікамі, „акуратна выконваючымі цэнтралізаваны плян жывёлазагатовак“,—мясной прадукцыі іх гаспадарак, выкараняючы прыватнікаў і перакупшчыкаў-спэкулянтаў, якія імкнуцца нажыцца на калгасным гандлі.

Таксама магутнейшым рычагом арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў зьяўляецца новы закон аб сельскагаспадарчым падатку. Ня гледзячы на вялізарны рост даходаў вясковага насельніцтва СССР, які амаль падвайваецца ў 1932 г. у параўнаньні з 1930 г.,—сума сельгаспадатку ў гэтым годзе не павялічваецца ў параўнаньні з мінулым годам.

У той час, калі „ў іх у капіталістых—падатковая сыстэма зьяўляецца адным з моцных арудзьдзяў прыгнечаньня і эксплёатацыі шырачэзных мас працоўных, у нас, у краіне Саветаў—падатковая палітыка зьяўляецца рычагом, садзейнічаючым вырашэньню чарговых задач партыі і савецкай улады ў галіне індустрыялізацыі і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі“ („Правда“) Сельгаспадатак гэтага году ўсямерна садзейнічае арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў, садзейнічае падняцьцю ўраджайнасьці і таварнасьці калгасаў, разьвіцьцю жывёлагадоўлі і тэхнічных культур, сваечасоваму і поўнаму выкананьню вытворчых і загатоўчых плянаў, рашучаму палепшаньню вучоту і справаздачнасьці калгасаў і яшчэ большаму разьвіцьцю калгаснага гандлю.

У мэтах садзейнасьці пашырэньню пасеўплошчаў,—згодна закону аб сельгаспадатку—вызваляецца ад абкладаньня ўвесь прырост пасеву па цаліне ў калгасах. У мэтах разьвіцьця тэхкультур і спэцыяльных галін сельскай гаспадаркі, калгасы атрымліваюць рад буйнейшых ільгот: вызваляюцца ад абкладаньня ўсе пасевы канапель у полі, пасевы лёну-даўгунцу і канапель—на ўноў асвоеных землях і г. д.

Асаблівая ўвага ў новым законе аддадзена пытаньню разьвіцьця жывёлагадоўлі: жывёла ўсіх відаў у калгасах не абкладаецца, ад абкладаньня вызваляецца ўвесь валавы даход таварных калгасных фэрм. Даход з кожнага га сеяных траў і кармовых караньплодаў прыраўніваецца да даходу ад га збожжавых культур і г. д. Гэтыя ільготы сьведчаць аб тым, што партыяй створаны ўсе выключна спрыяючыя ўмовы для пасьпяховага вырашэньня праблемы жывёлагадоўлі.

У мэтах разьвіцьця калгаснага гандлю, даходы калгасаў ад продажу сельскагаспадарчых прадуктаў праз калгасныя ларкі і калгасныя рынкі вызваляюцца ад абкладаньня.

Апроч усіх пералічаных ільгот, урад прадставіў мясцовым органам права памяншаць стаўку падатку для асобных маламоцных калгасаў, а асобныя калгасы зусім вызваляць ад падатку. Згодна гэтага права—зусім, або часткова магчыма вызваляць ад абкладаньня даходы ад неаграмаджанай часткі асобных калгасьнікаў і маламоцных аднаасобнікаў, асабліва былых чырвонагвардзейцаў і чырвоных партызан.

Сыстэма абкладаньня сераднякоў-аднаасобнікаў у асноўным захоўваецца тая-ж, што і ў мінулым годзе. Кулацкія гаспадаркі будуць абкладацца па іх сапраўднай даходнасьці ў індывідуальным парадку.

Усе гэтыя вялізарнейшыя палітычнай важнасьці дакумэнты апублікаваны партыяй і ўрадам зараз, у самы разгар 3-й бальшавіцкай вясны. Ворагі савецкай улады—кулакі і іх прыхільнікі—правыя і „левыя“ апартуністы не застановяцца перад тым, каб усяляк дыскрэдытаваць у вачох адсталай часткі калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства тую клясавую палітычна-гаспадарскую важнасьць, якая закладзена ў гэтых гістарычных дакумэнтах, з тым, каб сарваць пасьпяховае завяршэньне 3-й бальшавіцкай вясны, каб разбурыць калгасы. Усе гэтыя спробы кулацтва і яго агентуры павінны атрымаць самы рашучы адпор.

Кожная партыйная і камсамольская ячэйка, кожны сельсавет, праўленьне калгасу—павінны зараз-жа павесьці шырокую работу па папулярызацыі гэтых пастаноў сярод калгасьнікаў і беднякоў і сераднякоў аднаасобнікаў. Кожная калгасная брыгада павінна стаць цэнтрам, абгаварэньня гэтых важнейшых пастаноў.

Калгасныя брыгады і калгасьнікі! Узьнімайце новую моцную хвалю сацспаборніцтва і ўдарніцтва, высоўвайце сустрэчныя пляны пашырэньня пасеўных плошчаў і ажыцьцяўленьне ўсіх агратэхнічных мерапрыемстваў, якія забясьпечаць падвышэньне калгаснага ўраджаю. Пашырайце пасеў кармовых культур для стварэньня моцнай кармовай базы, як для сацыялістычнай жывёлагадоўлі, так і для задавальненьня ўласных патрэб.

Калгасьнікі і калгасьніцы! у 3-ю бальшавіцкую вясну заключнага году першай пяцігодкі, з яшчэ большым энтузіязмам наперад, пад кіраўніцтвам партыі на заваёву сацыялістычнага ўраджаю, у барацьбу за якасьць, за сацыялістычную жывёлагадоўлю, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў!

С. К.

# Ударна скончыць сяўбу

## Высокімі тэмпамі сяўбы, бальшавіцкай барацьбой за ўраджай адкажам на рашэньні партыі і ўраду

## МТС ПАВІННЫ ЎЗМАЦНІЦЬ ТЭМПЫ

Веснавая пасеўная кампанія павінна быць поўнасьцю скончана па БССР не пазьней 30 мая. У адпаведнасьці з гэтымі тэрмінамі, раёны паўднёвай і цэнтральнай зон павінны скончыць пасеў яравых не пазьней 20 мая, а паўночнай—30 мая.

Да 8 мая трэба было скончыць сяўбу раньніх яравых культур у паўднёвых раёнах і пераключыцца на пасеў тэхнічных культур.

Аднак тыя тэмпы, якія мы зараз маем, ні ў якім разе не забясьпечваюць выкананьня пляну веснавых работ у маі месяцы. Мы маем надзвычайна вялікае расьцягваньне тэрмінаў сяўбы раньніх яравых, што пагражае зацяжкай і спазьненьнем пасеву тэхнічных культур і ў першую чаргу ільну.

Узоры бальшавіцкай барацьбы за сканчэньне веснавой пасеўнай кампаніі павінны былі-б паказаць машына-трактарныя станцыі. **„У веснавой сяўбе МТС павінны паставіць у цэнтр сваёй увагі барацьбу за якасьць сельскагаспадарчай вытворчасьці і арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў“** (з пастан. пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б). А між тым зьвесткі з месц гавораць нам аб тым, што МТС праводзяць веснавую сяўбу надзвычайна маруднымі тэмпамі. На 10 мая ўсімі МТС засеяна ўсяго толькі 23.358 *га*, альбо 4,7 проц.

Асабліва недапушчальна праходзіць пасеў тэхнічных культур. Так, па зьвестках на 10 мая плян па пасеву ільну выканан усяго толькі на 1,1 проц.

Ня лепш абс аіць справа і з пасевам гародны культур і траў. Па гародніне плян выканан на 0,4 проц. і травах—1 проц.

Асабліва ганебна адстае **Лагойская МТС,** выканаўшая на 10 мая свой пасеўны плян усяго толькі на 0,3 проц., **Д ысенская**—на 0,5 проц., **Шклоўская**—0,6 проц., **Путчынская**—0,6 проц., **Сіродінская**—0,7 проц., **Лёзьнянская**—0,8 проц.

Адным з адсталых вучасткаў МТС у правядзеньні веснавой сяўбы зьяўляецца дрэнная арганізацыя працы. Асабліва дрэнна абстаіць справа з арганізацыяй працы ў Бялыніцкай, Капыльскай і 2-й Менскай машына-трактарных станцыях. Гэтыя МТС і на сёнешні дзень не арганізавалі яшчэ вытворчых вучасткаў і трактарных атрадаў.

МТС павінны зараз-жа ўзяць сапраўды бальшавіцкія тэмпы ў правядзеньні веснавой сяўбы. Пастаўленыя партыяй задачы па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў у іх арцельнай форме на даным этапе калгаснага будаўніцтва, ад машына-трактарных станцый патрабуецца напружаная работа і сапраўдная арганізацыя калгаснай вытворчасьці. Кожная МТС, кожны яе рабочы павінны памятаць, што раньняя сяўба забясьпечвае высокі ўраджай, садзейнічае пасьпяховай барацьбе за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

**Фарсаваць сяўбу збожжавых і забясьпечыць сваячасовы пасеў вядучых культур: ільну, бульбы, гародніны і траў—баявая задача МТС.**

МТС, як адзін з важнейшых вагароў арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, павінны разгарнуць шырокую масава-растлумачальную работу па папулярызацыі апошніх пастаноў ЦК УсеКП(б) і СНК СССР, аб сельскагаспадарчым падатку, збожжазагатоўках і жывёлазагатоўках сярод мас калгасьнікаў і беднякоў і серадняков-аднаасобнікаў. На аснове папулярызацыі гэтых пастаноў партыі і ўраду трэба мабілізаваць шырокія працоўныя масы вёскі на стварэньне кармовай базы для жывёлы, павышэньне ўраджайнасьці і прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі, на барацьбу за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

Машына-трактарныя станцыі павінны стаць сапраўднымі арганізатарамі па вытвару дадатковых рэсурсаў у сельскай гаспадарцы для разгортваньня калгаснага гандлю.

Усю сваю работу МТС павінны пабудаваць такім чынам, каб ня толькі пасьпяхова ў найкарацейшы тэрмін правесьці сяўбу, але і пасьпяхова бяз страт убраць ураджай. Трэба памятаць, што **„работу МТС партыя будзе ацэньваць па выніках ўраджайнасьці і павышэньні таварнасьці калгасаў, якія імі абслугоўваюцца, па выкананьні гэтымі калгасамі ўсіх сваіх абавязкаў перад пралетарскай дзяржавай“** (з пастановы пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).



Бульбасартоўка, вырабу Гомельскага заводу сельскагаспадарчых машын (БССР).

# За лепшае захаваньне трактара! За поўнае яго выкарыстаньне!

Адным з галоўнейшых умоў лепшага захаваньня трактара пры яго інтэнсыўным выкарыстаньні зьяўляецца поўная ліквідацыя абязьлічкі, аўладаньне тэхнікай і сыстэматычны нагляд за машынай.

Замацаваньне сталых трактарыстаў да кожнага трактара, сталае замацаваньне трактароў да атрадаў і атрадаў да вытворчага вучастку—адзін з важнейшых момантаў рацыянальнай эксплёатацыі машына-трактарнага парку і яго бесьперабойнай работы.

**Мэханік, правер трактар да пуска.** Кожны новы трактар да пуска яго ў работу павінен быць папярэдня агледжан, змазан і абкатан. Пры атрыманьні новага трактара неабходна праверыць спраўнасьць рабочых часьцей, замацаваньне балтоў і гаек, наліччa масла ў картэры матора і каробкі дыфэрэнцыяла, змазаць адпаведнай змазкай усе падлягаючыя змазцы часьці. Пасьля гэтага робіцца абкатка трактара наступным чынам: Даць прапрацаваць матору ўхаластую без уключэньня хуткасьцяй на працягу 2-х гадзін; рабіць абкатку трактара ў руху без нагрузкі—2 гадзіны; абкатваць з $^{1}/_{3}$ нармальнай нагрузкі—4 гадзіны; з $^{2}/_{3}$ нармальнай нагрузкі—4 гадзіны.

Па сканчэньні абкаткі неабходна выліць масла з картэра матора і каробкі дыфэрэнцыяла і наліць туды сьвежага масла. Дасканала агледзець усе мэханізмы трактара. Пасьля гэтага трактар можа быць пушчан у работу, але на працягу першых 60 гадзін нагрузка не павінна перавышаць $^{3}/_{4}$ нармальнай. Абкатку абавязкова рабіць у прысутнасьці мэханіка, і ўважліва прасачыць за станам машыны. Толькі пасьля абкаткі трактар можна пускаць у нармальную эксплёатацыю.

**Трактарыст, сачы за машынай.** Перад выхадам на работу неабходна зрабіць запраўку трактара гаручым і змазачным. Праверыць становішча прычэпнага інвэнтара: падцягнуць аслабшыя балты і гайкі, устанаўленьне сеялкі на высеў і г. д. Выход трактара з месца павінен быць плаўным—плаўнае ўключэньне муфты счапленьня. Трактар павінен працаваць на другой хуткасьці. Першая хуткасьць прымяняецца толькі ў выключных выпадках: пры пад'ёмах, перагрузцы і г. д. У часе працы неабходна сачыць за станам трактара (стукі) і прычэпных машын.

**Эканомна расходаваць гаручае і змазачнае.** Страты гаручага і змазачнага павінны быць зьведзены да мінімуму. Гаручае траціцца пры няўважлівай выгрузцы з цыстэрны ў нафтахавальнікі, пры запаўненьні бочак, у час перавозкі ў нафтахавальнік, або на месцы працы, асабліва з бочак з коркамі ўніз. Нельга дапускаць выгрузку бочак бяз скатаў, кіданьне бочак з воза на зямлю. Нафтатара павінна быць добра агледжана. На захаванасьць корка неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу. Шчыльна закрываць краны цыстэрн. Насосы трымаць у чыстым выглядзе.

Гаручае траціцца пры пераносе трактарыстам поўнага вядра з гаручым да трактара: яно расплёскваецца на зямлю. Наліваньне гаручага ў вядро шляхам наката бочкі прыносіць значную ўцечку. Таксама траціцца гаручае, калі жалезныя коркі заменены непадагнанымі драўлянымі і бочкі пастаўлены коркамі ўніз.

Эканомія гаручага можа быць пры добрым доглядзе за трактарам і спраўнасьці яго матора, пры памяншэньні непатрэбных халастых прабегаў (язда трактара ўхаластую з больш аддаленага канца гона да месца запраўкі гаручым, або залі́ўкі вады).

Не дапускаць разьліва масел. Адработанае масла хаваць для пуску ў рэгенерацыю. Ня менш 75 пр. адработанага масла павінна быць трактарыстам зьвернута назад. Масла зьбіраць і хаваць па відах.

Зьберажэньне адной толькі бутэлькі (500 грам) газы ў дзень на трактар па ўсіх трактарох БССР за адзін толькі 1932 год дасьць эканомію каля 300.000 *клг* газы, або 25 вагонаў.

**Акуратна запраў і змаж трактар.** Запраўка маслам і змазкай трактара робіцца згодна ўказаньняў у спэцыяльных падручніках. У трансмісіі СТЗ і ХТЗ масла мяняецца праз 1200 гадзін працы, у ФП—праз 480 гадзін. У рухавікі далійка масла робіцца кожную зьмену. Поўная зьмена масла робіцца кожныя 60 гадзін. Масла заліваецца да ўзроўняў, прадугледжаных кранікамі або спэцыяльнымі паказчыкамі. Пры запраўцы трэба сачыць, каб масьлёнкі былі абцёрты з тым, каб не пападала гразь у сярэдзіну.

Залійка вады ў радыятар павінна вытварацца праз варонку, сетку, або анучку для фільтрацыі вады. Вада, заліваемая ў вадзяны бачок для ўспрыскваньня, павінна быць асабліва чыстай і мяккай.

**Сачы за трактарам у халодны час.** Догляду за трактарам у халодны час павінна быць аддадзена самая сур'ёзная ўвага. Пры астаноўцы трактара на вялікі час (больш гадзіны) неабходна зьліць усю воду. Вада павінна быць зьліта ў бочку для наступнай залі́ўкі ў радыятар.

**Плянава-папераджальны рамонт—залог добрага стану трактара.** У мэтах большай захаванасьці трактара і папярэджаньня выхаду яго з строю, неабходзен плянавы агляд яго ў залежнасьці ад ступені зношанасьці і засьмечанасьці тых ці іншых мэханізмаў. Для плянава-папераджальнага рамонту трактары праз пэўныя, цьвёрда ўстаноўленыя тэрміны работ, правяраюцца ў полі ў дзённы час па аднаму або па два, але ня ўсе разам. Праз 900 гадзін працы трактар ФП, а СТЗ і ХТЗ праз 1200 гадзін, паступаюць у рамонтную майстэрню для праверкі.

У час пераглядy неабходна зрабіць: а) ачыстку трактара і падцяжку ўмацаваньняў; б) прамыўку картэра рухавіка; в) прамыўку паветраачысьціцеля; г) прамыўку радыятара; д) прачыстку палевых (топлі́ўных) фільтраў, трубак і адстойнікаў.

**Поўнасьцю скарыстаць магутнасьць трактара.** Трактар павінен быць скарыстан у першую чаргу на больш цяжкіх працах (пахата, дыскаваньне). Нельга дапускаць няпоўнае скарыстаньне магутнасьці трактара: работа ХТЗ 15-30 з плугам да ФП, прычэп недастатковай колькасьці прычапных арудзьдзяў. Не дапускаць перагрузкі трактара, або працу на першай хуткасьці.

**За колькасьць і якасьць працы.** Колькаснае і якаснае выкананьне вытворчай праграмы кожнага трактара зьяўляецца асновай пасьпяховага выкананьня пляну сельскагаспадарчых кампаній, барацьбы за агратэхніку і павышэньне ўраджайнасьці. Дрэнны догляд за машынай выклікае псаваньне самой машыны, дрэнную якасьць працы яе.

**Памятай аб тэхніцы небясьпекі.** Ня сходзь і ня ўзлазь на трактар у час яго руху; не давай кіраваць пабочным асобам; не спраўляй рухаючыяся часткі ў час работы,—у выпадку неабходнасьці спыняй трактар; ня зьнімай папераджальных прыстасаваньняў па небясьпечнасьці; не залазь паміж трактарам і прычэпнымі арудзьдзямі (нажа касілкі, маткі); пры руханьні з месца папярэдзь рабочых на прычэпках; пры даліўцы вады ў радыятар асьцерагайся апарваньня; пры запраўцы ня куры і не паднось агню; не абхватвай пускавую рукаятку вялікім пальцам.

**Сацспаборніцтва і ўдарніцтва—аснова выкананьня і перавыкананьня вытворчых заданьняў.** Толькі на падставе практычнага прымяненьня 6-ці ўмоў т. Сталіна і скарыстаньня сацыялістычных мэтадаў працы (сацспаборніцтва і ўдарніцтва), трактарны парк будзе больш поўна і рацыянальна скарыстан і дасьць мінімум прастояў і неабходнасьці рамонту.

Аўладаньне тэхнікай догляду і карыстаньня трактарам і сельскагаспадарчых машын, арганізацыя гурткоў па вывучэньні машыны—залог павышэньня эфэктыўнасьці працы, памяншэньня зношанасьці і паломкі машыны.

**Г. Марон.**

# Плян пасеву бульбы павінен быць выканан

*(Капыльскі раён)*

Каб спаткаць у баявой гатоўнасьці бальшавіцкую вясну, праўленьне калгасу імя Сталіна, Песачанскага сельсавету, загадзя распачало падрыхтоўку; насеньне і страхавыя фонды сваячасова былі прыведзены ў парадак.

Яшчэ ў лютым месяцы была складзена брыгада па рамонту сельскагаспадарчага інвэнтару, перавозачных сродкаў. Было зьвернута максымум увагі на падрыхтоўку да палявых работ цягавай сілы, на складаньне для цягавай сілы фуражных фондаў: загатоўлена 300 пуд. сена і аўса.

І калі сонца падышло бліжэй да нашых гарадоў, калгасаў, зямлі і нечакана апавясьціла вясну, сваімі цёплымі праменьнямі сплавіла сьнег і ўліло ўсяму веснавыя клопаты, а зямлі дало права жыць, гадаваць і вырошчваць—калгасьнікі калгасу імя Сталіна вытворчымі брыгадамі вышлі ў поле ў баявой гатоўнасьці. Вышлі, каб заставіць зямлю падпарадкавацца волі чалавека, каб даць патрэбны ўраджай, каб выканаць і перавыканаць пляны пасеву тых культур, якія прадугледжаны раённым заданьнем. І сапраўды, сваячасовая ўзброенасьць калгасьнікаў узгадавала посьпехі веснавой сяўбы ў калгасе імя Сталіна. Калгас ужо поўнасьцю закончыў пасеў раньніх культур. А пра тое, як выкананы пляны пасеву, красамоўна гавораць лічбы. Плянам прадугледжана засеяць аўса 17 **га**, а пасеена 25 **га**, ячменю патрэбна было пасеяць 8 **га**, засеена 11 **га**. Таксама закончана сяўба з перавыкананьнем пшаніцы, лубіну, грэчкі і інш. культур.

Бальшавіцкая вясна выдала загад адзін і аднолькавы для ўсіх калгасаў неабсяжнага Саюзу, для ўсяе калгаснае зямлі, загад кароткі і выразны:

— Ніводнага гэктара калгаснай зямлі не павінна застацца без нагрузкі, кожнаму вучастку даць нагрузку па вырошчваньню бальшавіцкага ўраджаю!

Кожны вучастак павінен гадаваць паложаную ў яго культуру. Але ў Капыльскім раёне былі і такія калгасы, якія ня мелі дастатковай колькасьці свайго насеньня, з прычыны чаго не маглі нагрузіць кожны гэктар.

Партыя і ўрад далі паказаньне арганізаваць міжкалгасную ўзаемадапамогу. Калгас імя Сталіна ўключыўся ў агульны струмень калгаснай узаемадапамогі і праз райкалгассаюз адпусьціў 7,5 **цнт** розных культур для другіх калгасаў.

Побач з добрымі бакамі ў працы калгасу імя Сталіна ёсьць і недахопы. Самы галоўны недахоп заключаецца ў тым, што плян пасеву бульбы скарачаецца амаль на палову. Патрэбна засеяць 40 **га**, а засееццца ня больш 25 **га**. Нажаль, у праўленьні калгасу гэты прарыў тлумачаць такою, зусім няўважліваю прычынаю, як недахопам гною. З такою прычынаю ні ў якім разе нельга прымірыцца. Гэты прарыў павінен быць ліквідаваны на хаду і плян па пасеву бульбы павінен быць выкананы ў што-б то ні стала.

Трэба адзначыць, што на такую неабходную рэч, як насьценгазэту, якая адыгрывае вялікую ролю ў посьпехах веснавой сяўбы, у калгасе імя Сталіна ніякай увагі не зьвяртаецца. Фармальна газэта існуе, ёсьць нават рэдкалегія, але газэта зусім не працуе. Недапушчальную адсутнасьць газэты ў калгасе неабходна падкрэсьліць з усёй сілаю яшчэ і таму, што на тэрыторыі калгасу ёсьць і партыйная ячэйка і камсамольская, ёсьць і сямігодка, але як партыйная, так і камсамольская ячэйкі зусім нічога не зрабілі, каб газэта ў калгасе існавала.

Конкурс „Правды“ па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў працягнуты. Неабходна гэты тэрмін скарыстаць для таго, каб усе маючыяся недахопы ў калгасе былі выпраўлены нахаду, каб у канцы конкурсу калгасьнікі калгасу імя Сталіна вышлі з перадавой калёнаю калгасаў Капыльшчыны па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў. Калгас імя Сталіна павінен прылажыць усе сілы на выкананьне пляну па пасеву бульбы.

**Тодар Алесін.**



Агульны абед для дзяцей у камуне „Праца“ (Ельскі раён)

# Калгас „КІМ“ адказвае ўдарнікам Крыму

(*Чырвона-Слабодзкі раён*)

Пашыраная нарада праўленьня, брыгадзіраў і калгаснага актыву калгасу „КІМ“, абгаварыўшы ліст ударнікаў сацыялістычных палёў Крыму і адозву калгасу „Камбайн“, Слуцкага раёну—пастанавіла;

У адказ на заклік крымскіх ударнікаў і калгасьнікаў „Камбайну“—мы, калгасьнікі прыгранічнага калгасу „КІМ“, уключаемся ва ўсебеларускі конкурс на лепшае правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі і лепшую арганізацыю і работу вытворчай брыгады ў час сяўбы, абвяшчаем сябе ўдарнікамі трэцяй бальшавіцкай вясны, уступаем у масавы сеў у поўнай баявой падрыхтаванасьці: створаны насенны фонд, насеньне адсартавана, інтэнтар і збруя адрамантавана, цягавая сіла—у спраўным выглядзе і забясьпечана кармамі. Мы арганізавалі 3 сталых вытворчых брыгады, ліквідавалі абязьлічку і ўраўнілаўку, давялі плянавае заданьне да кожнай брыгады, да кожнага калгасьніка. Мы бярэм на сябе абавязацельствы па-бальшавіцку весьці барацьбу за якасьць, за сацыялістычны ўраджай. Для гэтага мы ў зімовы час вывезьлі на калгасныя палі каля паловы ўсяго гною, набылі і скарысталі 115 цнт. мінэральных угнаеньняў, будзем як мага лепш угнойваць глебу і абавязуемся скончыць сяўбу ў 20 дзён. Наша задача дабіцца ўраджаю: 10 цнт жыта, 200 цнт. буракоў, 110—120 цнт бульбы, 30 цнт канюшыны з 1 га.

Мы заключылі сацыялістычны дагавор з калгасам імя Войкава на лепшае правядзеньне севу і разгарнулі ў сваёй штодзеннай працы сацыялістычныя мэтады—ударніцтва і сацспаборніцтва брыгады з брыгадай, калгасьніка з калгасьнікам.

Кожная брыгада арганізуе выпуск на працягу веснавой сяўбы пяцідзёнкі—насьценгазэты. Мы абавязуемся не дапушчаць прагулаў, даць 100 проц. выхад на работу, выконваць і перавыконваць нормы выпрацоўкі, захоўваючы якасныя паказчыкі, выконваць і перавыконваць плянавыя заданьні.

Выклікаем усе калгасы Чырвона-Слабодзкага раёну і ўсёй БССР ударна праводзіць веснавую сяўбу. Даць рашучы адпор усім антысавецкім вылазкам клясавых ворагаў і міжнароднай буржуазіі.

Па даручэньню нарады: **Праўленьне калгасу**

# Рабселькоры і нізавы друк у барацьбе за бальшавіцкую сяўбу

(*Мазырскі раён*)

Рабселькоры і нізавы друк калгасу імя Сталіна, Мала-Аўцюкоўскага сельсавету сканцэнтравалі сваю ўвагу на найкарацейшым тэрміне веснавой сяўбы і падняцьцю ўраджайнасьці калгасных палёў.

Па ініцыятыве рабселькораў і нізавога друку ў калгасе створана брыгада па паляводзтву з сталым складам у 37 чалавек, за якой замацован зямельны вучастак у 120 га, сельскагаспадарчы інвэнтар і цягавая сіла. Усе работы ў калгасе пераведзены на зьдзельшчыну. 13 красавіка калгас у поўнай гатоўнасьці прыступіў да палявых работ. За адзін дзень ударнай работы брыгада дзесяцьцю параконнымі плугамі ўзарала 15 га цаліны, засеяла яравога жыта 2 га і 4 га аўса. Нормы выпрацоўкі перавыконваюцца. Рэалізавалі праз насенную пазыку 900 грам гародніх культур, паколькі гэтых культур у калгасе адчуваўся недахоп. Галоўную ролю ў гэтым адыгрывалі рабселькоры і нізавы друк, якія па баявому мабілізавалі калгасную масу.

Узорны прыклад барацьбы за насеньне паказалі рабселькоры і нізавы друк калгасу імя Карла Маркса, Слабодзкага сельсавету, якія праз насенную пазыку сабралі сярод калгасьнікаў 16,3 цнт бульбы на насеньне і гэтым самым забясьпечылі калгас насеньнем выключна з мясцовых рэсурсаў.

Рабселькоры і нізавы друк калгасу „Калгасьнік „Мазыршчыны“, Слабодзкага сельсавету па ўдарнаму разгарнулі палявыя работы. 15 красавіка выехалі ў поле і за тры дні ўдарнай работы ўзаралі 25 га поля і раскідалі 150 вазоў гною. Сабралі праз насенную пазыку ільнасемя, 1 цнт. Рабселькоры і нізавы друк пад кіраўніцтвам партарганізацыі дабіліся сваячасовай кантрактацыі ў калгасе, дзе закантрактавалі 6 цнт ільнавалакна, 0,8 цнт пянькі, 20 цнт ілянатрасты, 48 цнт канаплянай трасты, за што атрымалі 2,5 цнт. збожжа авансам.

У пачатку веснавой сяўбы ў калгас улілося 5 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

**А. Кульмянок, С. Зайцаў.**



Стада сьвіней саўгасу „Фаніпаль“



## Шырэй сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў барацьбе за пяршынство ў конкурсе

# Як даглядаць парасят сысуноў веснавых апаросаў

Адным з асноўных пунктаў усесаюзнага конкурсу на лепшага старшага сьвінара зьяўляецца гадоўля парасят. Выгадаваць ад кожнай сьвінаматкі ў прамгасах у сярэднім 5 парасят к ад'ёму, забясьпечыць гэтым парасятам да 8 мес. узросту 400 гр прыросту ў суткі на адно парася і ў агульнай суме даць к 8 месяцам 80 кг жывой вагі кожнага падсьвінка — вось прамфінплян, за які трэба змагацца ўсяму калектыву саўгасаў і СТКФ.

Што-ж павінен ведаць і рабіць старшы сьвінар-брыгадзір, каб выканаць і перавыканаць, высунутыя конкурсам паказчыкі?

Каб атрымаць нармальны памёт — трэба перш за ўсё падрыхтаваць сьвінаматку да апаросу. Выганяць паросную матку на прагулку і пашу ўвесну і летам, дадаць правільна разьвіцца маткам і прыплоду, у злучэньні з правільным кармленьнем, паеньнем і доглядам пры захаваньні санітарна-гігіенічных умоў — забясьпечыць нармальнае разьвіцьцё прыплоду і пароснай маткі.

Сьвінар-брыгадзір павінен памятаць, што найбольшы процант парасят гіне ў першую дэкаду пасьля апаросу, а таму ў гэты пэрыяд патрэбна надзвычайная ўвага і чуласьць да парасят з боку сьвінароў і ўсяго абслугоўваючага пэрсаналу.

З малаком маткі парасяты амаль 2 дэкады атрымліваюць усё неабходнае для свайго росту, а таму адрываць кармленьне падсоснай маткі ад якасьці парасят нельга. Правільнае кармленьне разнастайнымі добраякаснымі кармамі і паеньне маткі—забясьпечваюць разьвіцьцё парасят.

Нованароджаных парасят прымаюць у асобую скрынку, падасланую мяккай саломай, абціраюць ад сьлізі мяккаю чыстаю анучкаю, адшчыпнуць чыстымі пальцамі на 8 см ад брушка пупавіну. Пасьля апаросу падмыць 1 проц. росчынай крэаліну вымя сьвінаматкі і праз 4—5 гадзін падпусьціць усіх парасят пад матку. На працягу 4—5 гадзін парасяты падпускаюцца пад матку, як толькі яны пачнуць крычаць (гэта звычайна бывае праз 1 гадзіну).

Праз 1—2 дні пасьля нараджэньня парасят, ім абразаюць прамытымі ў сьпірце шпрыцамі вострыя зубы. Усю гэтую працу абавязан праводзіць старшы сьвінар-брыгадзір сумесна з вэтфэльдшарам.

Летам асабліва трэба зьвяртаць увагу на чыстату сьвінарнікаў, кармушак, вэнтыляцыю, не дапускаючы скразьнякоў. Усякі скразьняк—небясьпека для маткі, якая паросіцца і толькі што апарасілася. Ад скразьняку вымя можа прастудзіцца і ацьвярдзець (масьціт).

Арганізацыя лягераў для летняга ўтрыманьня матак з парасятамі, калі за гэтую справу нараўне з дырэктарамі адказваюць і сьвінары, ёсьць неабходная ўмова, якая забясьпечыць выкананьне пляну выпуску і здачы таварнай прадукцыі 1932 г. Лягернае ўтрыманьне матак з парасятамі ўмацоўвае арганізм маткі і парасят. Для гэтага неабходны лёгкія павеці, загарадкі, самапаілкі і аддзяленьне з памостам для падкормкі парасят. Пры падборы добрамолочных матак, іх можна на пашы трымаць групамі. Лепшымі летнімі пашамі для падсосных матак зьяўляюцца: канюшына да цьвіценьня, люцэрна, віка з аўсом ці ячменём, кукуруза з гарохам, соя, рапс, сэрадэля, зялёная груша, а пад восень: пажніўныя рэшткі і пажніўныя культуры (турнэпс, морква і г. д.).

На скарыстаньне зялёных кармоў для падсосных матак трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу яшчэ і таму, што яны малакагонныя. Але зялёнага корму мала, трэба даваць яшчэ і спэцыяльную падкормку. Лепшай падкормкай для парасят-сысуноў у 10-дзённым узросьце будуць: падсмажанае зерне ячменю, аўса, кукурузы і інш. Зерняў даецца дастаткова ў нізкіх ацынкованых кармушках. З трэцяга дня ў стайні ставіцца мінэральная падкормка—дзернавая зямля з месц, дзе ня ходзяць і не пасуцца сьвіньні.

Пасьля таго як парасяты навучацца есьці і не пазьней 20-га дня, ім трэба даваць мяшанкі з разнастайных канцэнтраваных кармоў у выглядзе нягустой кашкі столькі, колькі парасяты зьядуць за 1 раз. Аўсянка і ячменная мука абавязкова прасяваецца на сіта. Кашку замешваюць на малацэ.

У прамгасах скармліваць парасятамі можна выключна зьнятае малако з такім разьлікам, каб да 3-х месячнага ўзросту выдаткаваць ня больш 18—20 літраў зьнятага малака на 1 парася. У суткі малако павінна складаць ня больш 10 проц. па пажыўнасьці ад усяго рацыёну. Ад нездаровых кароў можна даваць малако толькі пасьля падаграваньня да 80° С на працягу 20 хвілін.

Як матку, так і парасят забясьпечваць чыстай вадой тэмпэратурай ня ніжэй 30° С. Кармленьне парасят утвараць ня менш 4 раз у дзень.

Адымаць парасят ад сьвінаматкі ў 60—80-дзённым узросьце, у залежнасьці ад іх агульнага разьвіцьця. Кожны сьвінар павінен паставіць сабе мэтай, каб сярэдняя вага жывога парасяці да ад'ёму была ня ніжэй 16 кг. Ад'ём парасят вытвараецца паступова на працягу трох дзён, пакуль у маткі ня спыніцца вадзяненьне малака. Норма корму матцы пры гэтым скарачаецца да нормы халастой сьвіньні.

НДІ сьвінагадоўлі зварочвае асаблівую ўвагу старшых сьвінароў і ўсяго абслугоўваючага пэрсаналу на выкананьне „дробязяй" у абслугоўваньні парасят. Такімі „дробязямі", на жаль, лічаць у некаторых саўгасах і СТКФ, як паеньне парасят і маткі, сваячасовую выганку на прагулку ці пашу, мінэральную падкормку, ачыстку матак і парасят ад паразытаў і г. д. Некаторыя ба-

яцца, што на пашы парасяты перабльтаюцца і таму трымаюць іх у сьвінарніках і загародках.

Чотка пастаўленая нумарацыя дарослых сьвіней і сысункоў, прымацаваньне сталай брыгады да пэўнай групы сьвіней і сьвінарніка, згодна інструкцыі НКЗ СССР ад 14-ІІІ, ліквідацыя абязьлічкі—вось аснова зьнішчэньня недарэчнасьцяй пры пасьбе сьвіней. Кожны сьвінар павінен ведаць сваю сьвіню, парася.

Невыкананьне заавэтпрафілактыкуму, дрэнны догляд, абязьлічка, прыводзяць да таго, што і летам парасяты гінуць у вялікай колькасьці. Сонечнае цяпло і прамені трэба скарыстоўваць умеючы. Выгнаць на цэлы дзень у поле ў жару без вады і павецяй—гэта значыць рызыкаваць вялікім адыходам парасят. Тут патрэбна паступовасьць, скарыстаньне ранішніх і вячэрніх гадзін, зваротлівасьць пэрсаналу, разуменьне самой справы.

Усе гэтыя правілы без мабілізацыі мас, без ауладаньня тэхнікай, без адданасьці справе будуць выконвацца самацёкам. Вельмі часта інструкцыі Сьвінавода, Сьвінаводкалгасцэнтра па тэхніцы гадоўлі парасят і скарыстаньню пашы ў некаторых саўгасах і СТКФ не праводзяцца ў жыцьцё. Патрэбна самая рашучая барацьба за канкрэтнае кіраўніцтва з боку партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый працай сьвінасаўгасаў і СТКФ.

Сьвінагадоўля—баявая галіна жывёлагаспадаркі, якой аддаецца выключная ўвага партыяй і ўрадам і ўсёй савецкай грамадзкасьцю. Разгорнуты конкурс на лепшага старшага сьвінара павінен стаць матутным уздымам спаборніцтва і ўдарніцтва шырокіх мас сьвінароў-спэцыялістаў, рабочых палявой гаспадаркі, калгасьнікаў сьвінагадоўчых саўгасаў і калгасаў на выкананьне задач, пастаўленых партыяй і ўрадам перад сацыялістычнай сьвінагадоўляй.

**Змушко.**

# Героі сацыялістычнай сьвінагадоўлі

*Нарыс СЫМОНА ЖЫЛІЦКАГА*

На ўзгорку, за якім здаецца, калі стаіш у цэнтры саўгасу, заходзіць вясеньняе сонца—стройнымі калёнамі выстраіліся ў рад сьвінарнікі дацкай сыстэмы. Па шырокай вуліцы, што падзяляе калёны будынкаў, роўнай лініяй праведзена стаўбавая. Дрот адролікаў крута паварочвае ў сьвінарнікі.

А наўкол палі. Зелянее азімае, жыта чарнее ральля пад віку, гарох, люцэрну... Людзі рыхтуюць зялёны канвэер к лету. Для выпасаў ёсьць кавалак канюшыны мінулага году.

Усё гэта знадворны выгляд племянога заводу буйных белых ангельскіх сьвіней саўгасу „Блонь". Але галоўнае — у сярэдзіне, у сьвінарніках, дзе знаходзіцца 160 сьвінаматак, 585 парасят, 116 падсьвінкаў і 14 вытворнікаў. Усяго пагалоўя 875 шт.

Заходзім у цэх падсосных і супаросных матак. Усё нутро цэха выбелена. Пасярэдзіне роўны калідор вымураваны цэмантам. Паабапал — станкі. Каля сьценак яшчэ па аднаму праходу. Усюды чыстата. Сьвінаматкі спакойна сьпяць у станкох. Парасяты, як гурочкі, так сама калектыўнымі групамі разьмясьціліся на саломцы. Частка з іх ня спала; праз маленькія дзьверцы яны маглі пралезьці ў „сталоўку" паесьці, пагуляць... Сталоўкі для парасят зроблены на кожныя тры гнязды. Падкармліваць пачынаюць з 7-мі дзён.

У карытцах малако, сухая мука, кукуруза і, як мінэральная падкормка—зямля.

У канцы калідора, абапёршыся на станок, стаяла дзяжурная сьвінарка Антаневіч, непадалёку ад яе—Васіна. Чакалі апаросу.

— Ідзі прынясі чыстую анучку,—прапанавала Васінай Антаневіч,—і каб усе было напагатове.

Чыстая анучка патрэбна была, каб абцерці маленькіх навараджоных парасятак, праверыць іх і ў радок прысадзіць да маткі.

Пачынала ўжо цямнець.

Ад сьценкі з праходу віднеліся дошчачкі, якія падвешаны супроць кожнага станка. Гэта цэтлік з адзнакаю клічкі, нумару, узросту, пароды сьвіньні, тэрміну злучкі ці апаросу.

Станцыя ўключыла ток, і раптам заблішчалі беленькія, як сьнег, парасяткі.

Цэх маладняку.

Сьвінаром працуе **Фэдарэнчык Цімох** — лепшы з лепшых ударнік і барацьбіт за сацыялістычную сьвінагадоўлю. Даглядае ён—258 галоў. На сьвінарніку ён працуе нядаўна, з восені мінулага году. Мужчыны саромеліся тады ісьці на працу ў сьвінарнік. Жанчын ня было. Становішча склалася пагражаючае. Паслалі тады на сьвінарнік Шашанкова, які замест наладжаньня працы нядбайна аднёсься да справы сьвінагадоўлі. На сьвінарніку пры ім стала брудна, і ўрэшце Шашанкоў заявіў:

— Маё нутро не пераварыць тут працаваць,—і пакінуў сьвінарнік.

Фэдарэнчык улічыў становішча. Ён не пасаромеўся. Пашоў працаваць на сьвінарнік.

Норма выпрацоўкі па доглядзе за маладняком—200 галоў. Вытворчая нарада сьвінароў гэту лічбу скарацілa да 120.



9-месячны маладняк ангельскай пароды ад сьвінаматкі „Каралева". Ударнік Фэдарэнчык Ц., які даглядае 258 галоў маладняка (саўгас „Блонь", Пухавіцкага раёну).

**Маладняк даручылі даглядаць Фэдарэнчыку Цімоху.**

У першыя дні ўжо Цімох стаў адчуваць сваю недагружанасьць. Заатэхніку заявіў—„Мала“. Тады ў сьвінарнік паставілі яшчэ 30 галоў. Але праз два дні Фэдарэнчык усур'ёз стаў даказваць, што норму, прысланую Племсьвінаводтрэстам ў ліку 200 галоў скарацілі напрасна. Тады дабавілі да 200 галоў сьвіней. Але Фэдарэнчыку і гэтай колькасьці сьвіней стала мала. Тады ў сьвінарнік № 1 зьмясьцілі 258 галоў маладняку — столькі, колькі мог зьмясьціць сьвінарнік, і гэта ўсё для Фэдарэнчыка.

У цэх паступае маладняк 2-х месячнага ўзросту. Да 10-ці месяцаў маладняк у Фэдарэнчыка пад маткай, якія важаць у сярэднім 170 кг. Месячны прырост бывае 16—20 кг. Яно абавязак—гадаваць да часу пакрыцьця, а потым перадаваць у цэх дарослых матак. Перададзена ім ужо 56 сьвінаматак.

Посьпехі ў рабоце Фэдарэнчыка маюцца таму, што ён зацікаўлены, аддаены сваіму цэху—сваёй справе. Сьвіньні ў яго на групавым утрыманьні. Узрост іх розны. Кормяцца ў калідоры. Раней гэты цэх кармілі ў 6 зьмен, што зацягвала час кармленьня і сьвіні не маглі ўсяго паядаць, паколькі іх хутчэй заганялі ў станкі. Фэдарэнчык сваю работу мэханізаваў. Сам перагарадзіў калідор на тры часткі. Прыносіць, налівае кармы ў карыты, выпускае сьвіней і кармленьне адбываецца толькі ў 2 зьмены.

За ўдарную работу на сьвінарнік Фэдарэнчык прэміраваны тры разы. Усебеларускі зьлёт ударнікаў таксама прэміраваў яго. Прагрэсыўка множыць зарплату ў некалькі разоў. Сярэдні заработак сьвінара 60 руб., Фэдарэнчык зарабляе па 108 і больш.

**Доўнар Стася**—ударніца. Па рабоце не адстае ад Фэдарэнчыка. Яе цэх—падсосныя маткі. Нормы выпрацоўкі 20. Стася даглядае 30.

Да месячнага ўзросту парасяты важаць 8 кг. Адыход складае — 4 проц. і то галоўным чынам бывае за лік „заморышаў“ — слабенькіх нарадзіўшыхся.

Адна сьвінаматка прывяла 20 парасят. Клапатлівым уходам Стася захавала жыцьцё ўсіх нарадзіўшыхся. 18 корміць родная матка, а 2-х Стася адсадзіла пад другую сьвінаматку. Сем дзён парасят корміць сьвінаматка, а пасьля пачынаюць падкармліваць. Рацыён кармленьня складае заатэхнік. Спачатку маленькім даюць мінэральную падкормку, гатаваную ваду, падсмажаную муку, потым малако, сухую падкормку і ўрэшце мяшанку.

Падрыхтоўваць кармы для цэху—абавязак Доўнара Стасі. У яе абавязак уваходзіць штодзенна выганяць сьвінаматак з парасятамі на прагулку.

Па рабоце Стася два разы прэміравана.

У сувязі з Усесаюзным конкурсам на лепшага сьвінара, брыгады цэхаў заключылі паміж сабой сацыялістычнае спаборніцтва. Доўнар, Бразгаўка і Карнейчык спаборнічаюць з Федарэнчыкам і Мігуцкай.

Вынікі іх ударнай работы ўжо ёсьць. Прамфінплян першага кварталу перавыкананы на 103 галавы. Плян здачы племянных сьвіней выкананы на 108 проц. (замест 59 вытворнікаў здана 64). Адыход складае 5 проц. Усё сьвіное пагалоўе саўгасу расьце. На першае студзеня 1932 г. была 392 галавы. Цяпер амаль у тры разы павялічана.

На першае студзеня 1933 году будзе 250 сьвінаматак, 1500 маладняку і 18 вытворнікаў.

— Заданьне выканаем і перавыканаем,—упэўнена гаворыць Федарэнчык Цімох.

— Заваюем пяршынство ва ўсёсаюзным конкурсе на лепшага сьвінара,—пацьвярджаюць астатнія сьвінары саўгасу.

Пухавіцкі раён,
саўгас „Блонь“

# У барацьбе за якасьць

*(Уваравіцкі раён)*

Сьвінагадоўчы саўгас „Старая Беліца“ на працягу 1931 г. пры апартуністычным кіраўніцтве дырэктара саўгасу Аўгуля, знаходзіўся ў палосе ганебных прарываў. Правільнай арганізацыі працы ня было. Зьдзельшчына была праведзена толькі на паперы. На справе панавала кулацкая ўраўнілаўка,—кваліфікаваныя рабочыя атрымлівалі пэнсію пароўну з некваліфікаванымі. Сьвінар не зьяўляўся цэнтральнай фігурай у саўгасе. Уліку вынікаў сацспаборніцтва і ўдарніцтва ня было; адсутнічаў прэміяльны фонд. Кармы і насеньне разбазарваліся, рэзультатам чаго зьявіўся буйны недахоп кармоў для жывёлы ў канцы 1931 году. За нядбайныя адносіны, за апартуністычную практыку кіраўніцтва саўгасу зьнята.

Пры новым кіраўніцтве безгаспадарчасьць паступова ліквідуецца. Насеньне, кармы, адшуканы. Прыняты меры да забесьпячэньня саўгасу рабочай сілай на час веснавой сяўбы, шляхам заключэньня дагавораў з калгасамі. Арганізаваны сталыя палявыя брыгады, за якімі замацоўваецца сельскагаспадарчы інвэнтар, транспарт, цягавая сіла. Абязьлічка і ўраўнілаўка ліквідуецца па ўсіх брыгадах, вучастках, цэхох.

Пастанова СНК СССР, ЦК УсеКП(б) і НКЗ СССР аб рабоце жывёлагадоўчых саўгасаў, якая была прапрацавана на вытворчых нарадах, на агульным сходзе,—яшчэ больш узварухнула і мабілізавала рабочых і тэхнічны пэрсанал на выкананьне задач, пастаўленых партыяй і ўрадам перад саўгасам. У адказ на гэту пастанову і на ліст рабочых Маскоўскага аўтамабільнага заводу імя тав. Сталіна, рабочыя і тэхнічны пэрсанал саўгасу ўзялі на сябе рад сацыялістычных самаабавязацельстваў, выкананьне якіх забясьпечыць выкананьне прамфінпляну саўгасу на 1932 г.

Арганізаваны 4 сацыялістычныя гасразьліковыя брыгады імя 3-й гадавіны сацспаборніцтва і ўдарніцтва — імя вялікага пралетарскага сьвята 1-га мая.

2 старшыя сьвінары і 15 сьвінарак уключыліся ва Ўсесаюзны конкурс на лепшага старшага сьвінара. Плян здачы таварнай прадукцыі ў першым квартале 1932 г. выканан на 102,6 проц. Высунут сустрэчны плян здачы дзяржаве таварна-мясной прадукцыі за 1932 г. у 2200 цнт замест 2088 цнт па пляну. Узяты самаабавязацельства на датэрміновае сканчэньне сяўбы.

Першым уключыўся ва Ўсесаюзны конкурс на лепшага старшага сьвінара тав. **Жарын** — старшы брыгадзір першай сацыялістычнай гасразьліковай брыгады. Жарын працуе доўгі час у саўгасе, быў вылучан на курсы сьвінароў, як лепшы ўдарнік, які апраўдваў сябе, як на грамадзкай працы, таксама і на гаспадарчай. Жарын — камсамолец. Адыход маладняка на сьвінарніках, якія абслугоўваюцца брыгадай, Жарына, дайшоў да нуля, а раней, да Жарына, была адыходу 17 проц. Уключыўшыся ў конкурс на лепшага старшага сьвінара, Жарын са сваёй брыгадай высунуў рад самаабавязацельстваў: поўнае захаваньне пагалоўя, выкананьне пляну здачы дзяржаве таварна-мясной прадукцыі, 100-проц. пакрыцьцё матак у тэрмін і ліквідацыя ялавасьці, поўная чыстата на сьвінарніках, арганізацыя догляду, на аснове запатрабаваньняў заатэхнікі.

**Аўгуль Алена**—работніца — сьвінарка з брыгады Жарына. У саўгасе працуе доўгі час, як лепшую з лепшых яе вылучылі на адказную работу—у сьвінарнік № 4. На яе сьвінарніку зусім няма адыходу маладняка. Алена клапоціцца аб тым, каб сьвінарнік, які яна абслугоўвае, заўсёды быў забясьпечан патрэбнымі кармамі і падсьцілкай. Яна раней усіх прыходзіць на сьвінарнік і пакуль астатнія работніцы прыходзяць,—яна ўжо ачышчае станкі. Поўнасьцю прытрымліваецца норм кармленьня, ніколі ня лічыцца з гадзінамі, калі гэтыя гадзіны ідуць на карысьць сацыялістычнай сьвінагадоўлі.


Ударніца—сьвінарка Аўгуль Алена (саўгас „Стара-Беліца“, Увараўіцкага раёну.

За ўдарную работу на сьвінарніку, своечасовае кармленьне, ліквідацыю адыходу, разгортваньне спаборніцтва і ўдарніцтва, **Аўгуль Алена** рабочым калектывам прэміравана пачэснай **граматай ўдарніка.**

Алена—камсамолка. Камсамольскі калектыў саўгасу даў ёй рад камсамольскіх нагрузак—яна загадчык бібліятэкі саўгасу, загадчык сэктару масавага разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Сваей практычнай работай Алена ўцягвае ўсё новых і новых работніц-сьвінарак ва ўдарныя брыгады, якія таксама ўключыліся ў конкурс на лепшага старшага сьвінара.

У саўгасе зроблен пералом.

Ударнікі саўгасу робяць вялікую справу ў сацыялістычнай сьвінагадоўлі, падпарадкуючы сваю работу 6-ці гістарычным умовам тав. Сталіна.

Абапіраючыся на энтузіястаў сацыялістычнай сьвінагадоўлі на такіх як Жарын, Аўгуль Алена і інш., паляпшаючы штодзённае апарацыйнае кіраўніцтва усей работай у саўгасе, трохкутнік саўгасу павінен павесьці ўвесь рабочы калектыў па шляху далейшых рашаючых перамог у разьвіцьці сацыялістычнай сьвінагадоўлі, на выкананьне саўгасам сваіх абавязацельстваў перад пралетарскай дзяржавай.

Вопыты і мэтады барацьбы сьвінароў саўгасу „Старая Беліца“—за сацыялістычную сьвінагадоўлю павінны быць пераняты ўсімі сьвінарамі раёну.

**Русовіч В.**

# Узьняць адказнасьць брыгадзіра і брыгады

*(Рагачэўскі раён)*

На СТКФ імя Сьвярдлова Сьвяцкага сельсавету адсутнічае належны догляд за жывёлай. У сьвінарніках пануе бруд, адсутнічае зьмена падсьцілкі па цэлых месяцох, існуе яшчэ абязьлічка ў доглядзе за пароснымі сьвінаматкамі. Вынікі такога безадказнага догляду відавочны: на днях з-за нядбайнасьці даглядчыкаў прапала 15 парасят і адна сьвінаматка каля 120 кг. На кухні, дзе гатуецца ежа для сьвіней, пануе антысанітарыя: бульба парыцца напалову зьмешаная з пяском, прычым, загадчык фэрмы ня выдае даглядчыцам корм, а яны самі бяруць на „вока“, у выніку—нерацыянальнае скарыстаньне кармоў. Аб усіх гэтых злачынствах на фэрме праўленьне калгасу добра ведае, але захадаў для зьнішчэньня ніякіх ня прымае.



Цяпер фэрма мае 78 сьвіней, з іх да 45 сьвінаматак, а да канца 1932 г., згодна вытворчага пляну, павінна быць 510 сьвіней. Але цяперашні догляд за сьвінямі, адсутнасьць памяшканьняў для іх—можа сарваць плян, аб за трэці квартал стада павялічылася ўсяго толькі на 3 штукі.

Сьвінагадоўчая брыгада № 6 ня ведае свайго вытворчага пляну і не адчувае адказнасьці за пастаноўку работы на фэрме. Брыгадзір Карунчыкаў М. больш цікавіцца доглядам сваіх уласных сьвіней, а што на фэрме дохнуць сьвінаматкі, дык гэта яго не датычыцца. На фэрме ёсьць сьвінаркі-ударніцы Меранцова і Ваўчкова, але іх ударніцтва заглушае загадчык фэрмы Карунчыкаў М.

Больш адказнасьці брыгадзіра і брыгады, больш заатэхнічных ведаў сьвінаркам, больш крытыкі і самакрытыкі,—вось рацэпты, якія павінны лячыць сьвінагадоўчую фэрму; праўленьне калгасу за палепшаньне працы на таварнай сьвінафэрме таксама адказвае перад грамадзкасьцю.

**Я. С.**

# Больш увагі пасьбе жывёлы ў саўгасах і калгасах

Існуе некалькі відаў, спосабаў пасьбы жывёлы: спосаб вольнай пасьбы; спосаб пасьбы на прывязі і спосаб пасьбы ў загарадзі.

Ва ўмовах буйнай сацыялістычнай гаспадаркі, правільна арганізаваны спосаб вольнай пасьбы жывёлы ёсьць і застаецца асноўным спосабам пасьбы жывёлы. У чым заключаецца правільна арганізаваны спасаб вольнай пасьбы жывёлы? Адзнакай правільна арганізавай вольнай пасьбы жывёлы зьяўляецца тое, што пастух ня гоніць вялікай жорсткай пугай з лаянкай (як гэта мае месца ў няправільна арганізаванай вольнай пасьбе жывёлы), а павінен ціха і спакойна весьці на пашу і з пашы за сабой жывёлу.

Пастух зьяўляецца адным з самых першых, самых галоўнейшых жывёлаводаў у саўгасах і калгасах. Трэба пугу пастуха замяніць ражком, градусьнікам, капытным ножыкам, ведамі аб правільным кармленьні жывёлы, аб правільным палепшаньні і карыстаньні пашы, уменьнем аказаць першую дапамогу захварэўшай жывёле, ведамі аб тым, як можна папярэдзіць захворваньне жывёлы, а калі яна і захварэла, дык ведаць захады супроць распаўсюджаньня хваробы. Усе гэта магчыма цалкам і поўнасьцю ажыцьцявіць толькі ва ўмовах буйнай сацыялістычнай гаспадаркі — у саўгасах і калгасах.

Што канкрэтна трэба зрабіць, каб забясьпечыць правільна арганізаваную вольную пасьбу жывёлы? Перш за ўсё пачаць безадкладную работу па палепшаньні пашы. Спосабаў палепшаньня пашы існуе два: паверхоўнае і карэннае палепшаньне. Паверхоўнае палепшаньне заключаецца ў баранаваньні да чарнаты паверхні пашы, у папярэднім абсушцы, церабленьні кустоў і зьнішчэньні купін. Вытвараць гэтыя работы трэба вясной ці ўвосень ці летам пасьля страўліваньня вучастка пашы. Лепшымі з барон для гэтай мэты будуць простыя цяжкія бароны. Вельмі добра падборону ўнесьці попелу, як вельмі карыснага ўгнаеньня для лугоў з разьліку 3—4 цнт на 1 га пашы. Раскудзеленая, разьмякчаная такім чынам паша атрымлівае добрае асьвяжэньне. Карэньні расьлін пачынаюць разьвіваць узмоцненае дыханьне. Асака, сівец і інш. малапажыўныя расьліны выціскаюцца больш пажыўнымі расьлінамі. Але ў шмат разоў больш лепшыя вынікі атрымліваюцца ад карэннага спосабу палепшаньня пашы. Ён заключаецца ня толькі ў асушцы, ачыстцы і ўгнаеньні пашы, але і ў абавязковым узорваньні пашы і засеве спэцыяльнымі сенажаця-выпасавымі расьлінамі (травасумесі). Каранны спосаб палепшаньня пашы павышае яе пажыўнасьць у 8—10 і нават больш разоў у той час, як паверхоўны толькі ў 2 разы.

Для правільнага скарыстаньня пашы трэба падзяліць яе на некалькі вучасткаў. У разьвязваньні гэтага пытаньня мае вялікае значэньне разьмяшчэньне выпасавых вучасткаў (нізкае, высокае і г. д.), разьмяшчэньне вадапояў і наяўнасьць натуральных умоў для аддзяленьня аднаго вучастку пашы ад другога (роў, рака і г. д.). У паасобных выпадках трэба будзе паміж той ці іншай парай вучасткаў пашы разьбіць загарадзь. Аднак усё-ж трэба імкнуцца ўтвараць разьбіўку пашы на вучасткі бяз лішніх загародак для прагонаў. Адведзеныя вучасткі пашы страўліваюцца па чарзе і пакуль стравіцца апошні вучастак — першы пасьпее зноў адрасьці сьвежай травой; нізкія вучасткі трэба страўліваць у сухое надвор'е, а больш высокія—у вільготнае.

Для сьцельнай жывёлы неабходна ўжываць разьдзельную пасьбу жывёлы, адводзячы лепшыя і бліжэйшыя вучасткі пашы, а таксама і для маладняка і малочнай рагатай жывёлы. Лепшыя дальнія вучасткі—коням і астатняй рагатай жывёле, а горшыя—авечкам.

Пасьбу жывёлы трэба ўжываць ў асноўным вольную, правільна арганізаваную. Неабходна шырока ўжываць прыём кармленьня жывёлы на пашы—„з-пад нагі“. Гэты прыём вольнага спосабу пасьбы „з-пад нагі“ заключаецца ў тым, што пастух выстройвае ў адну лінію жывёлу і ня пускае за гэту лінію датуль, пакуль ня будзе ныедзена трава на адлегласьці 2—3 шагоў па лініі, а пасьля яшчэ адступае на два — чатыры шагі і г. д. На добрых вучастках жывёла звычайна хутка прывыкае да гэтага каштоўнага прыёму вольнай пасьбы, выпрацаванага лепшымі пастухамі—практыкамі. На пашы не павінна быць касьцей, каменьняў, шкла і інш. водкідай. Ачыстку вучасткаў пашы неабходна вытвараць вясной. Лепш хваробу папярэдзіць, чым яе лячыць. Перад выганам жывёлы на пашу неабходна агледзець яе ў прысутнасьці вэтурача.

Кожны год абавязкова трэба вычышчаць стаячыя вадапоі сажалкі, абгароджваць іх з мэтай адхіленьня магчымасьці забруджваньня самой жывёлай, не дапушчаць паласканьня бялізны, мачэньня канаплі, лёну і кіданьня трупаў жывёлы ў вадапой, якім карыстаецца стада. Не паіць жывёлу адразу пасьля паяданьня сьвежай сырой маладой травы, а пачакаўшы гадзіны 2—3. Ня пасьвіць раніцой жывёлу па маладой канюшыне, а таксама па такіх вучастках пашы, дзе шмат атрутных траў (чамярыца, дурман, калужніца і г. д.). Невыкананьне гэтых асноўных правіл — вядзе да атручваньня і захворваньня жывёлы. Сытая жывёла больш забясьпечана ад гэтай небясьпекі, бо яна ня так прагна хапаецца за ежу, але ўсё-ж ня трэба дапускаць да наяданьня маладой канюшынай, бо ад яе ў жывёлы бывае вельмі апасьлівая хвароба—уздуцьце жывата. Таму такія вучасткі пашы трэба скарыстоўваць не раніцою, а ўвечары. Ня прымаць у здаровае стада жывёлы з боку без агляду вэтурача. Калі заўважана, што тая ці іншая жывёла захварэла—безадкладна адзяляць яе і ставіць у ізалятар, з асаблівай пасьбой. Пабудаваць скотныя магількі і паўшую жывёлу ад такіх заразьлівых хвароб, як, сап, сібірская язва і інш., закопваць толькі на скотных могілках. Паўшую жывёлу ад іншых хвароб здаваць на існуючыя салатопкі. Безадкладна зварочвацца за вэтдапамогай пры захворваньні жывёлы.

Неабходна забясьпечыць усе магчымасьці для пастухоў па набыцьці імі неабходных ведаў аб правільнай пасьбе жывёлы, шляхам праходжаньня завочных курсаў пастухоў, выпіскі літаратуры—часопісаў, газэт, арганізацыяй адпаведных гутарак, лекцый і г. д. Высоўваць лепшых рабочых саўгасаў, лепшых калгасьнікаў на такую адказнейшую работу, якой зьяўляецца пасьба жывёлы—гэтых жывых машын, мяса, малака, масла, сала, скур, і г. д., якія так патрэбны краіне, у якой будуецца сацыялізм.

Паказаныя вышэй другія два спосабы пасьбы жывёлы на прывязі і ў загарадзі ва ўмовах буйнай сацыялістычнай гаспадаркі ня могуць зьяўляцца ня толькі асноўнымі, але і займаць больш ці менш віднае месца, бо гэтыя спосабы, а асабліва на прывязі, магчыма было ўжываць пры хутарской сыстэме, а не ў краіне з разьвіцьцем буйных саўгасаў і калгасаў.

У заключэньне трэба падкрэсьліць шкоднасьць пасьбы жывёлы на сенажацях наогул і асабліва раньняй вясной, пасьля дажджоў і пасьля пакосу. Недабор сена з такіх сенажацяй атрымліваецца вельмі вялікі, што перашкаджае забясьпячэньню жывёлы кармамі ўзімку. Мэта пашы—летняе кармленьне жывёлы; мэта сенажацяў—забясьпечыць дастатковай колькасьцю добрага, смачнага, пажыўнага сена для жывёлы на зіму. Таму ў летні час ня трэба забываць і аб зіме, так як забясьпячэньне жывёлагадоўлі зімнім запасам сена таксама зьяўляецца пытаньнем першачарговай важнасьці. Адсюль выцякае наш штодзенны клопат ня толькі аб пашы, але і аб атрыманьні большай колькасьці і лепшай якасьці сева з сенажацяй.

**Круглоў В.**

# Як зьнішчыць скуранога авадня

Авадзень прыносіць вялікую страту нашай жывёлагадоўлі. Па прыблізным падлікам па СССР мы маем ад аваднёў страт каля 140 мільёнаў рублёў. Кожны калгас і саўгас павінны аддаць вялікую ўвагу барацьбе з аваднём.

Па знадворнаму выгляду — авадзень падобен на казюльку, якая жывіцца за кошт іншага арганізму. Ён каля двух месяцаў жыве ўне чужога арганізму, а 10 з лішнім месяцаў у арганізьме. Авадзень падобен на муху велічынёю з пчалу. Плодзіцца ён яйкамі. У сярэдзіне лета самка адкладвае да паўтысячы яек на ногі жывёлы, вакол кален. З яек праз тыдзень выходзіць лічынка, якая прагрызае і ўядаецца пад скураную клетачку, або пад міжмышачныя валокны. Пад скурай лічынка праходзіць усё наперад і даходзіць да горла жывёлы. Рух ад ног да горла лічынка праходзіць на працягу прыблізна трох месяцаў. Самае любімае месца лічынкі—гэта сьценкі стравахода, куды яна і імкнецца трапіць. Калі лічынка нападзе на гэтае месца, дык яна пачынае ліняць.

Авадзень учыняе вялікі неспакой карове. У часе кладкі яек аваднём каровы ў большасьці ўцякаюць з пашы і астаюцца галоднымі, ад чаго зьмяншаюцца ўдоі малака. У часе, калі пад скураю маюцца лічынкі, карова зьмяншае да $^1/_5$ удою малака. Трэба таксама ведаць, што пакусаная аваднём скура мае дзіркі, ад чаго пасьля вырабу траціцца яе вартасьць.



Зьлева—ручное выцісканьне лічынкі авадня, а справа—выдаленьне лічынкі пінцэтам.

### Меры барацьбы з аваднём

Самым лепшым часам барацьбы з аваднём зьяўляецца раньняя весна—перад выпасам, або ў пачатку самога выпасу. Самую барацьбу з скураным аваднём магчыма праводзіць шляхам упырскваньня ў сьвішчы чатырох-хлёрыстага вуглярода, або сера-вуглярода. Магчыма рабіць уціраньне ў сьвішчы мазі „Фенолі". Калі ў гаспадарцы няма вышэй прыведзеных матэрый, тады можна выціскаць і зьнішчыць лічынкі авадня.



Зьлева—упырскваньне ў жалвак з лічынкай чатырхлёрыстага вуглярода ці серавуглярода, а справа — уціраньне ў жалвак з лічынкаю мазі „Фенол" ці іодаформа.

Упырскваньне чатырох-хлёрыстага вуглярода ў жалвакі, ці серавуглярода праводзіцца шпрыцам бяз іголкі. Магчыма для гэтай мэты скарыстаць масьлёнку. Падышоўшы да заражанай жывёлы, кончык масьлёнкі ці шпрыца падносіцца да дзіркі жалвака і ўліваецца як мага больш гэтых матэрый. На 1 жалвак траціцца 1 кб. с. матэрый. Праз дзень трэба яшчэ раз зрабіць агляд і зьнішчыць тых лічынак, якія асталіся яшчэ жывымі.

Уціраньне мазі „Фенола" у жалвак робіцца такім чынам: бярэцца 1 гр фенолу, ложыцца на дзірку жалвака, добра ўціраецца ў жалвак пальцам ці драўлянаю лапаткаю. Калі зроблена ўціраньне, дык у дзірцы трэба пакінуць невялікую колькасьць фенолу ў выглядзе крышачкі. Праз дні два зноў трэба зрабіць уціраньне фенолу такім самым спосабам.

Мазь „Фенол" прыгатаўляецца такім чынам: „бярэцца 5—10 частак чыстага фенолу, 90—95 частак якой-небудзь тлустасьці. Замест тлустасьці магчыма браць вазелін.

Выцісканьне лічынак патрэбна праводзіць у красавіку, маі і чэрвені. Жалвакі ў гэты час маюць вялікія дзіркі і праз іх можна лёгка выдавіць авадня. Жалвакі не адразу адкрываюцца, чаму і выцісканьне трэба ўтвараць пры іх ускрыцьці. Перад выцісканьнем лічынкі з сьвішча трэба зьнішчыць гной і прачысьціць дзірку. Зрабіўшы гэта трэба націскаць вялікім пальцам на сьвіш і падганяць лічынку да дзіркі. Пальцы паступова трэба пасоўваць угару ў кірунку да дзіркі сьвішча. Пры зьяўленьні лічынкі, яе крывым пінцэтам трэба выцягнуць і раздушыць, а гной з жолвака выдаліць і змазаць іодам. Гэтую работу трэба праводзіць асьцярожна, каб у жалваку не раздушыць лічынкі авадня.

**М. Ц.**

# ВЫПУСК ЧАСОПІСІ Ў ТЭРМІН—БАЯВАЯ ЗАДАЧА ДРУКАРНІ І РЭДАКЦЫІ

**(Ліст ударнай брыгады наборшчыкаў імя 13 гадавіны Кастрычніка друкарні імя Сталіна)**

У дзень 20-гадовага юбілею газэты „Праўда“ выдавецтва „Калгасьнік Беларусі“ прэміявала нашу брыгаду наборшчыкаў у суме 500 рублёў, за тое, што мы дамагліся своечасовага выкананьня ўсіх работ, зьвязаных з наборам часопісі „Шляхі Калектывізацыі“.

Раней часопісь праходзіла наборны цэх 7 і больш дзён, а зараз, калі заступіла наша брыгада—часопісь праходзіць наборны цэх 4—5 дзён.

Дамагліся мы гэтага на аснове штодзеннай барацьбы за ажыцьцяўленьне 6 ці гістарычных умоў тав. Сталіна, у барацьбе з абязьлічкай, ураўнілаўкай і г. д.

За 1931 год брыгада выканала свой прамфінплян за 11 месяцаў на 108 проц.

Зараз брыгада пераведзена на гаспадарчы разьлік, гэта яшчэ больш падвысіла тэмпы работы брыгады. І, ня гледзячы на тое, што заданьні брыгадзе значна павялічаны ў параўнаньні з 1931 годам, аднак прамфінплян за першы квартал гэтага году выканан на 112 проц.

Наша брыгада 2 разы прэміявана.

Мы, рабочыя, наборнага цэху—брыгада імя 13 гадавіны Кастрычніку—запэўняем рэдакцыю і чытачоў часопісі „Шляхі Калектывізацыі“, што і ў далейшым, пад кіраўніцтвам парткалектыва друкарні, яшчэ з большай энэргіяй будзем змагацца за своечасовы выпуск часопісі з тым, каб калгасьнік змог як найхутчэй атрымаць гэтую неабходную часопісь.

Выклікаем на сацыялістычнае спаборніцтва машынны і пераплётны цэхі нашай друкарні па ўсіх тых апарацыях, з якімі зьвязаны найхутчэйшы выпуск часопісі „Шляхі Калектывізацыі“.

Канкрэтна—мы бярэм на сябе абавязак: набіраць кожны нумар часопісі у 3—4 дні, выконваць работу добраякасна, не дапускаючы памылак у наборы. Мы лічым, што машынны і пераплётны цэхі могуць і павінны выконваць сваю работу па выпуску часопісі „Шляхі Калектывізацыі“ ня больш як на працягу 2—3 дзён—абудва цэхі разам.



Брыгада наборнага цэху друкарні імя Сталіна, якая прэміравана за ўдарную работу па набору часопісі „Шляхі Калектывізацыі“.
На здымку: стаяць—Шуб, Васютовіч, Гімельштэйн, сядзяць—Нечаеў, Шастьцітка, і Амромін, старшы брыгадзір—Бергер

Брыгада імя 13 гадавіны Кастрычніка:
**Бэргер, Шуб, Амромін, Васютовіч, Нечаеў, Шасьцітка, Гімельштэйн, Марковіч, Ліпман.**

# Для чаго і які севазварот нам патрэбен

Каб дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны, у тэхніка-эканамічным адношаньні мы павінны аўладаць тэхнікай, бо **„тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё“** (Сталін).

У галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі аднэй з асноўных задач на даным этапе зьяўляецца падвышэньне якасьці працы нашых саўгасаў і арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне. Адным з асноўных мерапрыемстваў па выкананьні гэтай задачы зьяўляецца ўнядрэньне ў нашы саўгасы і калгасы высокай агратэхнікі і ў прыватнасьці севазвароту. Што-ж такое севазварот?

Севазварот—магутны сродак для паляпшэньня структуры глебы.

Як вядома, ня ўсе нашы культурныя расьліны патрабуюць аднолькавых умоў для свайго пасьпяховага росту. Гэта залежыць галоўным чынам ад будовы карнявой сыстэмы, сьцябла і лісьця расьлін.

У залежнасьці ад запатрабаваньняў расьлін да запасаў пажыўных матэрый у глебе, ад іх спрытнасьці выкарыстоўваць гэтыя запасы, ад характару і моцнасьці карнявой сыстэмы ў залежнасьці ад запатрабаваньняў расьлін да таго ці іншага стану культурнасьці глебы і іх уплыву на гэты стан, расьліны падзяляюцца ў асноўным на 3 групы:

**Зернавыя** (жыта, авёс, пшаніца і г. д.).

**Кораньклубняплоды** (бульба, буракі, морква, бручка і г. д.).

**Бабовыя** (бабы, лубін, гарох, канюшына і г. д.).

Шляхам навуковых досьледаў установлена, што для нармальнага разьвіцьця нашых расьлін неабходны наступныя спажыўныя матэрыі: (азот знаходзіцца ў салітры і ў гнаі), калій (знаходзіцца ў калійнай солі ці ў каініцы), нягашаная вапна, фосфарная кіслата (якая знаходзіцца ў супэрфасфаце, томас-шлаку, фасфарытах і г. д. Прычым усе гэтыя

спажыўныя матэрыі расьліны бяруць для сябе выключна з зямлі (апрача азоту, які бабовымі расьлінамі бярэцца пры дапамозе асобных бактэрый, жывучых на карэнях бабовых—і з паветра). У сувязі з гэтым асабліва важнае значэньне мае карнявая сыстэма нашых расьлін.

Такія, напрыклад, расьліны, як зернавыя (жыта, авёс і г. д.) маюць кароткую мачкаватую карнявую сыстэму і могуць здабываць патрэбныя для сябе спажыўныя матэрыі толькі з верхніх пластоў глебы.

Другая група нашых расьлін, так званыя бабовыя (боб, гарох і г. д.) маюць доўгія карэньні і могуць здабываць патрэбныя для сябе спажыўныя матэрыі з значна больш глыбокіх пластоў глебы. Прычым, зернавыя бяруць з глебы даволі багата азоту, фосфарнай кіслаты і параўнаўча мала калія, вапны. Бабовыя-ж расьліны, наадварот, бяруць з глебы калія і вапны значна больш, чымся зернавыя. Таксама значна больш, чымся зернавыя, патрабуюць для сябе калія і вапны і караньклубняплоды.

Што ж да азоту, то дзякуючы прысутнасьці на карэньнях бабовых у так званых клубеньках (бугарках) асобных бактэрый, гэтыя расьліны значную колькасьць азоту здабываюць з паветра і такім чынам ня толькі не высіляюць глебу на азот, а нават абагачаюць яе. Так, падлічана, што пасьля добрага ўраджаю бабовых у пажніўных астатках гэтых расьлі на адзін га застаецца столькі азоту, колькі яго можна атрымаць прыблізна з 360 цэнтнераў гною.

Далей. Зернавыя расьліны, дзякуючы слабаму аценяньню глебы, пакідаюць яе сьціснутай, глыбістай, з парушанай структурай. Караньклубнеплоды-ж пакідаюць пасьля сябе глебу распыленай і таксама з парушанай структурай. Найлепшы стан глебы застаецца пасьля траў (бабовых).

## Севазварот—сродак барацьбы з пустазельлем

Вялікую шкоду нашаму земляробству прыносіць пустазельле. Пасяліўшыся сярод культурных расьлін, пустазельле адбірае ў іх значную частку спажыўных матэрый, сьвету, вады і гэтым самым надзвычайна пагаршае ўмовы росту культурных расьлін. А часта нават і зусім глушыць нашы культурныя расьліны. Такая, напрыклад, сарніна як ільняная і канюшынная павіліка (кускута) пасяляецца на саміх ільняных і канюшынных расьлінах і высмоктвае сокі з жывых расьлін.

Прычым такое путазельле, як сьвірэпка, пасяляецца сярод пасеваў амаль усіх хлебных расьлін. Такое-ж пустазельле як куколь, селіцца: з яравых—галоўным чынам у аўсе, а з азімых—у жыце. Прычым, амаль, кожная культурная расьліна мае сваё пустазельле. Зусім зразумела, што толькі пры чаргаваньні, скажам, жыта і бульбы пустазельле жытніх пасеваў магчыма зьнішчыць, пры дапамозе бульбяных пасеваў. Бо у такім разе пустазельле жытніх пасеваў, па-першае ня знойдзе на бульбяным полі тых умоў, якія яно мела ў жытніх пасевах, а па-другое, дзякуючы добраму догляду за бульбай (полка, акучваньне) гэтае пустазельле будзе зьнішчана.

## Севазварот—сродак барацьбы з шкоднікамі (казюлькамі)

Нарэшце ўсім вядома, якія вялікія страты прыносяць нашай сельскай гаспадарцы шкоднікі (рознага віду жучкі, матылі, чэрві і г. д.) і так званыя грыбныя хваробы нашых расьлін (галаўня аўса, проса, пшаніцы, хлебны ражок, парша на лісьцях бульбы, гніль морквы і г. д.). Ад усіх гэтых шкоднікаў і грыбных хвароб наша народная гаспадарка штогодна нясе страты на некалькі соцень мільёнаў рублёў, якіх хапіла-б на пабудову некалькіх гігантаў-заводаў.

І вось аказваецца, што хоць цэлы рад гэтых шкоднікаў у аднолькавай меры зьнішчаюць амаль усе нашы палявыя расьліны, як, напрыклад, лугавы матыль, але вельмі шмат і такіх шкоднікаў, якія псуюць адзін від ці некалькі блізкіх відаў нашых расьлін.

Напрыклад, хлебны жук-кузька вельмі шкодзіць збожжавым расьлінам. Абсыпных-жа расьлін, як буракі, бульба і г. д. гэты жук ня любіць. Ці, напрыклад, гесенская муха,—пшанічныя і жытнія пасевы амаль цалкам зьнішчае.

А вось аўса і караньплодаў гэтая муха ня любіць. Зразумела, што каб вывесьці з поля хлебнага жука кузьку, трэба ўвесьці ў пасеў больш абсыпных расьлін. Таксама, каб зьменшыць шкоду ад гесенскай мухі, трэба ўключыць у пасевы культуру аўса, кукурузы ці караньплодаў. Ці, напрыклад, бурачны жук вельмі любіць класьці свае яйкі ў цьвёрдую сьціснутую глебу. Зразумела, што, каб зьнішчыць гэтага жука, неабходна ня даць яму спрыяючых умоў для кладкі яек. А для гэтага неабходна падтрымліваць пухкасьць і камкаватасьць глебы. Пры такіх умовах бурачны жук ня зможа пладзіцца на полі.

## Севазварот—ня толькі чаргаваньне расьлін

З усяго вышэйсказанага відаць, што для таго, каб найлепш скарыстаць пажыўныя матэрыі глебы, каб стварыць найлепшую структуру глебы і ў найлепшай меры захаваць нашы расьліны ад засьмечанасьці сарнінай і ад пашкоджанасьці казюлькамі, неабходна ўвесьці правільнае чаргаваньне расьлін на полі з такім разьлікам, каб, напрыклад, пасьля азімых высяваліся бульба ці караньплоды, а пасьля гэтых расьлін—яравыя зернавыя і потым травы (бабовыя) і г. д.

Але ўвядзеньне правільнага севазвароту ў саўгасе альбо калгасе не азначае ўвядзеньня толькі пэўнага чаргаваньня расьлін у гэтых гаспадарках. Разам з увядзеньнем правільнага чаргаваньня расьлін абавязкова трэба выконваць і тыя запатрабаваньні, якіх кожная ўведзеная ў севазварот расьліна патрабуе для пасьпяховага свайго росту з боку апрацоўкі і ўгнаеньня глебы, а таксама і з боку догляду за расьлінамі.

Дасьледчымі станцыямі і нашымі перадавымі саўгасамі і калгасамі ўстаноўлена, што пры ўвядзеньні правільнага чаргаваньня расьлін, апрацоўкі і ўгнаеньня глебы і догляду за расьлінамі ці інакш кажучы, пры ўвядзеньні правільнага севазвароту ў саўгасе альбо калгасе магчыма павысіць ураджайнасьць нашых палёў амаль на 10 і нават больш процантаў у год. А што значыць павысіць ураджайнасьць нашых сацыялістычных палёў на адзін процант? Гэта значыць, як казаў т. **Куйбышаў** на II сэсіі ЦВК СССР, даць краіне лішніх 720 мільёнаў пудоў хлеба, ці інакш, кажучы, па 5 пудоў на душу ўсяго працоўнага насельніцтва ў Саюзе.

*(Працяг будзе у наступным нумару).*

# ЗАВОЧНІКІ АБ ЗАВОЧНЫМ НАВУЧАНЬНІ

## ДАЙЦЕ ПАДРАБЯЗНУЮ ПРАГРАМУ

Для таго, каб завочна скончыць навучальную ўстанову—неабходна перш за ўсё ўпэўненасьць, што яе магчыма скончыць, гэта значыць упэўненасьць у тым, што завочнае навучаньне пастаўлена такім-жа сур'ёзным чынам з арганізацыйнага мэдычнага боку, як і стацыянарнае навучаньне. Але аднэй толькі ўпэўненасьці недастаткова,—патрэбны (як і пры навучаньні ў стацыянарнай школе) адпаведныя ўмовы для вучобы: вусная кансультацыя, брыгадныя заняткі і г. д.

Пры сучасных актыўных мэтадах навучаньня, калі прапрацоўка матар'ялу праводзіцца студэнтамі самастойна (індывідуальна і ў брыгадзе), а выкладчык дае кансультацыі,—завочнае навучаньне з вялікім посьпехам можа праводзіцца такім-жа чынам, як і навучаньне ў стацыянарных школах. Завочнікі таксама павінны працаваць брыгадай, што значна палягчае і паглыбляе прапрацоўку заданьняў.

Зазначаю аб гэтым з уласнага вопыту. Аднаму цяжка займацца. Ня вучыцца цяжка, а цяжка, пасьля 8 гадзін працы на вытворчасьці, брацца за кнігу. Брыгада-ж з 3—4 асоб дае мажлівасьць перамагчы гэтую цяжкасьць. Брыгадныя заняткі падцягваюць, дысцыплініруюць кожнага ўдзельніка брыгады. Прапрацоўваць заданьні лепш за ўсё спачатку кожнаму паасобку (індывідуальна), а на брыгадныя заняткі выносіць незразумелыя пытаньні, паўтарэньне і падагульненьне.

Завочны сэктар павінен даць завочнікам з самага пачатку заняткаў падрабязную праграму па кожнай дысцыпліне. Прычым, у праграме абавязкова павінен быць паказаны каляндарны расклад заняткаў. А між тым, да гэтага часу завочны сэктар дае вельмі расплывістыя тэрміны для прапрацоўкі заданьняў і прысылкі пісьмовых прац, што адмоўна дзейнічае на студэнта-завочніка і не зьяўляецца стымулам для ўзмацненьня дысцыпліны. Калі завочніку прысылаюць падручнік без паказаньня тэрміну прапрацоўкі, або калі з паказаньнем, але-ж потым яго не правяраюць і ня прытрымліваюцца яго, дык у завочніка прападае ўсякае жаданьне арганізоўваць свой час і працу і прапрацоўка заданьня пры гэтых умовах можа зацягнуцца на доўгі час.

Таму трэба, каб завочны сэктар, пасылаючы заданьне, абавязкова зазначаў тэрмін прапрацоўкі гэтага заданьня. Неабходна таксама, каб у праграмах была зазначана колькасьць матар'ялу, якую неабходна прапрацаваць кожны дзень, згодна календарнага пляну.

Навучальная частка, відавочна, думае, што мы, завочнікі, як дарослыя, дысцыплінаваныя людзі ўсе зможам і што нам такія „дробязі", як пляваньне часу і кантроль—не патрэбны. З уласнага вопыту я павінна адзначыць, што навучальная частка памыляецца. Калі мяне і іншых таварышоў залічылі завочнікамі, мы чакалі матар'ялу з падрабязнымі праграмамі, з паказаньнямі як яго прапрацоўваць, у які тэрмін і г. д. і былі надта зьдзіўлены, калі пачалі атрымоўваць падручнікі бяз ніякіх праграм, а часам нават і без паказаньняў, як і калі прапрацоўваць гэтыя падручнікі (Рабі як хочаш!).

Калі будуць даны падрабязныя праграмы з паказаньнем матар'ялу, які завочнік павінен прапрацаваць кожны дзень, калі будуць арганізаваны брыгадныя заняткі і наладжаны сыстэматычныя кансультацыі, калі будуць вызначаны пэўныя тэрміны прысылкі пісьмовых кантрольных прац—тады, я ўпэўнена, магчыма будзе наладзіць заняткі так, каб у найкарацейшы тэрмін і з найбольшым посьпехам скончыць завочную навучальную ўстанову. А скончыць яе можна з такім-жа посьпехам, як і стацыянарную.

Пажадана каб усе таварышы завочнікі зрабілі свае заўвагі і падзяліліся на старонках часопісі „Шляхі Калектывізацыі" сваім вопытам завочнай вучобы.

**Ф. Палякова.**

(Студэнтка-завочніца Інстытуту Кармовых Культур і Агракемії ў г. Горках).

---

# ПАПРАЎКА

У часопісі „Шляхі Калектывізацыі" № 8, за красавік 1932 г. у артыкуле „Радковая сеялка і як ею карыстацца" заўважаны наступныя памылкі:

1. На 12 старонцы ў 21 радку зьверху левага стаўбца надрукавана:—„з 3-х трубак", а трэба „з 3-х трыбак".
2. На тэй-жа старонцы правага стаўбца выпушчаны абзац: „Плошча засеву пры адным абароце кола = 2,38 *м* × 3,90 *м* = = 9,28 *кв. м.* На 1-25 *га* трэба зрабіць $\frac{400}{9,28}$ = 43 абароты.
3. На тэй-жа старонцы ў апошнім абзацы пасьля слова „раўняцца" выпала слова „двайному".
4. Мал. 2 і 3—пераварнуты дагары.

---

Адказныя рэдактары: **С. МІЦЬКОЎ. Н. МІХАЙЛАЎ.**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1181. 1660 экз. Упа. Галоўлітбелу № А—2

